Альдон Дзенцёл нарадзіўся ў Любартове 10.IV.1946 г. Дзіцячыя гады і маладосьць правёў у вёсця Нядзьвяда. Па адукацыі – сацыёлаг. Актыўна працуе ў групе ўладаўскіх творцаў, выконвае функцыі каардынатара літаратурнай суполкі. З захапленьнем і любоўю – марак, кнігалюб, прыхільнік і пясьняр Палесься. Як камандор і віцэ-камандор яхтклубаў, а яшчэ старшыня аддзелу Польскага турыстычна-краязнаўчага таварыства (РТТК) мае ў сэрцы патрэбу вандравак і знаёмстваў.

По яго глыбокім перакананьні наведваньне і знаёмства зь мясьцінамі, прадстаўленымі ў кнізе, становіцца крыніцай культурных і патрыятычных пачуцьцяў. Так што запрашае на спатканьні ў “храмах” паэтаў.

На апошняй вокладцы – унутры:

Аўтар прадстаўляе Таварыства Творцаў Надбужанскай Культуры імя Януша Каліноўскага ва Уладаве. Піша вершы, эпіграмы, фрашкі, афарызмы і лімерыкі. Дагэтуль напісаў больш за 2000 літаратурных твораў. Частка зь іх была выдадзена ў наступных кніжках аўтара: “Палесьсе – мая малая Радзіма”, Уладава 2006 (Кніжка паэзіі з фатаграфіямі, 175 старонак), “Ненамыленныя развагі”, Уладава 2008 (Зборнік фрашкаў і афарызмаў з графікамі, 222 старонкі), “Любельская лімерыковая круцёлка зь дзятлавага дупла”, Уладава 2008 (Лімерыкі з малюнкамі, 265 старонак).

\ Эксьлібрыс Альдона Дзеньцёла – аўтар Ежы Гросман

На апошняй вокладцы звонку:

Тры музеі – Юзафа Ігнася Крашэўскага ў Раманаве, Генрыка Сянкевіча ў Волі Акшэйскай і Стафана Жаромскага ў Наленчаве – зьяўляюцца бясцэннай нацыянальнай спадчынай, правадамі, што злучаюць гісторыю з сучаснасьцю. Таму я мару, каб у школах, турыстычных даведніках і мапах ўвесь час знаходзіўся прапанаваны мной маршрут, які я назваў “**Любельскай літаратурнай трасай”,** ён праходзіць праз мясьціны, зь якімі зьвязаны біяграфіі цудоўных пісьменьнікаў.

**Альдон Дзеньцёл**

# Падзякі

Прагну выразіць падзяку за праяўленую зацікаўленасьць, вялікую сардэчнасьць, а таксама за дапамогу пры выданьні кніжкі ніжэй пералічаным высакародным мецэнатам культуры:

Пану дэлегату Сэйма Рэспублікі Польшча Зьбігневу Матушчаку з Хэлма

Пану дырэктару Ваяводскага Дома Культуры Артуру Сэмпачу зь Любліна.

Альдон Дзеньцёл

# Ад аўтара

Я памятаю, калі вучнем сярэдняй школы разам з усім класам упершыню наведаў музей: Юзафа Ігнася Крашэўскага ў Раманаве, Генрыка Сянкевіча ў Волі Акшэйскай і Стафана Жаромскага ў Наленчаве. Зь цягам часу я ўсё больш разумеў, якую велізарную ролю адыгравалі і працягваюць адыграваць у польскай літаратуры гэтыя вялікія пісьменьнікі:

Стварылі патрыятычныя,
Нацыянальныя песьні,
Каб сьвятую любоў да польскасьці
Фжно да мозгу касьцей
У нацыі ўвасобіць!

У іх багатым літаратурным набытку мы знойдзем узоры, якія вучаць актыўна займацца нацыянальнымі справамі:

У мроях грамадства, у зьяднаньні -
Такім, што гонар за Айчыну,
Ахвяраваньне для яе,
І аб ёй добрая навіна,
Як вецер сьцягі -
Шырока, горача, моцна,
Польскія сэрцы разгорне!

У гэтай сьціплай кніжцы, напісанай прозай і крыху вершамі, я хацеў перш за ўсё паглядзець на трох вялікіх палякаў, пісьменьнікаў, патрыётаў пэўным чынам скрозь першынство музеяў, паказаць больш шырокі сьпектр вядомых постацяў на літаратурнай Любельшчыне.

Альдон Дзенцёл

# I
# Сьлядамі трох польскіх пісьменьнікаў

Цёплы травеньскі сьвітанак. Ураньні я на аўтамабілі выправіўся з Уладавы на маршрут Раманаў-Воля Акшэйска-Наленчаў. Сёньня я пазнаёмлюся зь мясьцінамі, што зьвязаныя са знакамітымі пісьменьнікамі літаратурнага Алімпу, творчасьць якіх усё яшчэ зачароўвае масы чытачоў.

Яны стакротна аддаюць!
Хто разуменьнем прыгажосьці,
Уражлівым здабыткам творчым,
Іншых надзяляюць!

Як мясцовы патрыёт, я ганаруся, што менівіта тут, на ўсходзе Польшчы, у гэтых мясьцінах знаходзяцца літаратурныя музеі Ю.І. Крашэўскага, Г. Сянкевіча, С. Жаромскага. Дарэчы, Крашэўскі і Сянкевіч перапісваліся між сабой, Жаромскі ж на сьмерць Сянкевіча зрабіў прыгожую, поўную годнасьці прамову. Абодва маладыя пісьменьнікі – і Сянкевіч і Жаромскі, назіраючы за літаратурнымі і дасягненьнямі Крашэўскага, чэрпалі сабе зь яго твораў рэфлексіі, дасканалілі на іх грунце пісьменьніцкія навыкі. Я прывяду тут адзін з эпізодаў жыцьця Сянкевіча. Дык вось, калі ён толькі рабіў першыя крокі на літаратурным полі, і ў 1871 годзе скончыў аповесьць “Дарэмна”, яго сябра Добрскі паслаў яе Крашэўскаму, які ў той час быў ужо карыфеем публіцыстыкі, і яго лічылі вялікім аўтарытэтам. Крашэўскі прачытаў аповесьць маладога Сянкевіча і вельмі пазітыўна ацаніў, напісаўшы, што “рэдка першая праца бывае такой сьпелай”.

Усе тры пісьменьнікі нарадзіліся ў сярэдзіне стагоддзя, і жылі ў тым самым стагоддзі, а ў асноўным – на пераломе вякоў. Сёньня ўвогуле немагчыма ўявіць сабе польскую нацыянальную літаратуру, адукацыю і культуру бязь іх прозьвішчаў.

Кожны зь іх быў нейкім чынам зьвязаны з Крэсамі. Крашэўскі

там падарожнічаў, працаваў, жыў, маляваў іх і апісваў. Фабула трылогіі, як і іншых твораў Сянкевіча, усталявана на даўнейшых Крэсах. Жаромскі ж наведаў Падляшша і тэрыторыі Палесься ля Буга, актыўна цікавіўся трагедыяй уніятаў: забойствамі, перасьледамі і ссылкамі ў Сібір.

***

Шляхам, пракладзеным у межах Еўрапейскага Саюза, я еду як мага далей на ўсход, побач велічна і ляніва цячэ таямнічы…

**Першабытны дзікі Буг**

Ім маладзік зачараваны –
Начны і вечаровы валацуга,
Тым, што ў водблеску калыша
Меандры, старыцы, абрывы,
У цішы залацістай ночы…

Тут розных яшчэ колькі хочаш
Пахіленых вербаў, трысьнёгу,
І заляцанак птушыных, і сьпеваў!

У блакіце водных акенцаў
Трысьціна любуецца гнуткая.
Па апоўначы тонкагалоса
Песьняры-салаўі гуляюць вясельле
Ажно да зьзяньня ранішняга сьвітанку.

Тут кожны шчасьлівы
Калі свае чары і штукі
Сівабародаму Бугу як бацьку
З паклонам прысьвеціць, пакажа!

А калі нектараў пах прыносяць
На сьвітанку росныя чаромхі,
І заўсёды на залітай абалоне
Лотаць залатая мые ногі,
Сьмеючыся сонцу ў знак падзякі –
Крык тужлівы чаек раздаецца!
А з прытопленай галіны
Маляўнічы, райскі зімародак
Верхаводак з раніцы пільнуе.

Ля зваленых дрэваў на Бугу
Бабры ў каралеўскім убраньні,
Як і даўней завіхаюцца ў час навальніцы!
А на чароўнай выспе
Качка на яйках прыціхла,
Сонна прыплюшчыўшы вочы…

Непадалёк ад старых вольхаў
Дзе курасьлеп фліртуе
З праменямі вясны,
Што за пейзаж! Спрадведчны,

Жыцьцядайны, вясёлы:
Па зарослых кустоўем лугах,
Сярод купін сьвежай травы,
Сакавітай, зялёнай, пушыстай
Мама ласіха брыдзе з ласяняткам.
А далей чорны бусел
Крочыць павольна!

Толькі рэдка можна спаткаць
На такавішчы магічным
Цецяручыную зграю сягодня!
Бо лугі надбужанскія
Ператварыліся ў старадаўнія ўрочышчы.

Шмат гадоў праляцела, калі
Захапляўся гэтымі цудамі прыроды
Настальгічна і прыгожа – Крэсамі,
Сам маэстра Крашэўскі
Маляваў, пісаў і апісваў…

***

Я плыву недзе ў міражы, высока-высока… насустрач часу, і думаю, як жа гэта цудоўна, што маладыя Юзак, Гэнак, Стафан і я, малы Альдон, звычайны хлапчук, дзесьці ў сваіх любімых вёсках, дзе гучаць плюскат, кваканьне, іржаньне, брэх, петушыны сьпеў, галубінае буркаваньне, такія сапраўдныя, сьвежыя, паэтычныя; там мы падрасталі ў нашых калысках, поўных неімправізаванай, шчырай традыцыі, адкрытасьці, сямейнай дабрачыннасьці:

Сярод цудоўных кілімаў
Польскіх духмяных лугоў
Набрынялых калосьсяў
Слухаючы гучаньне музыкі
І яе ранішнія адгалоскі

Дзе шчырая праца
Касца ў час сьпякоты;
І годны збожжавы дождж
Для дастатку і з хлеба нектару

Дзе быў дарагі мне,
Зялёны, маляўнічы краявід,
Устаўлены стагамі пад стрэшкамі,
І сялянскія коні, што цягнуць
Старыя калёсы з драбінамі.

Там незабыўна блізкая
Хатняя атмасфера:
Смачнае кіслае малако
У гліняным збане
Або сон на сене –
Там такі водар, так мякка
І спакойна…

Або над пашай
Какецтва матылькоў,
Адурманеных сокам траваў!
Яшчэ там сьпевы і малітвы,
Жывы, хоць просты танец.
Такі непадробны, сапраўдны –
Партрэт наш польскі, маляўнічы!

Нашыя маленькія душы насычаны
Сельскімі пахамі і відамі:
Высокай, гібкай мальвы
Ля вуглоў пабеленай хаты;
А межы нівы здаваліся нам
Поўнымі рамонкаў і блакіту.

А яшчэ ідылічныя бэз і язьмін,
Півоня, акацыя, дзікая ружа
І лясны, лірычны пах ландыша,
Ці інтэнсіўны – ляўконіі
Зорным вечарам,
Складаны, ліслівы, душны…

У тыя хвіліны замілаваньня
З даўняй польскай песьняй
Ля каплічнай іконы!
Калі навокал сьвечкі
І май палымнее…!

Усе тры знакамітыя пісьменьнікі былі захоплены айчыннай традыцыяй, прыродай, вобразы якіх маляўніча, з душою ўплятаюць у свае творы. Крашэўскі асабліва шчымлівым словам апявае ваколіцы Раманава, малюючы краявіды, паказвае прыгажосьць прыроды.

***

Дарогаю мінаю Ружанку, якая ў 2006 годзе адзначала 500-ю гадавіну атрыманьня гарадскіх правоў, дзе на высокім адхоне панаваў над навакольлем прыгожы палац з панарамай на зьвілісты Буг, яго абалону і лугі. Разьмяшчаліся там рэзідэнцыі вялікіх магнацкіх родаў, і яго ўладальнікамі былі: Пацы, Флемінгі, Чартарыйскія і Замойскія. У тым маёнтку з палацам, прыгожай аранжарэяй і паркам, а яшчэ ў падначаленых фальварках, у рытме пораў году праходзіла традыцыйнае, эканамічнае і культурнае сармацкае жыцьцё, калі з Заходняй Эўропы у асяродак інтэлектуалаў, у тым ліку і літаратараў, даходзілі новыя ідэі, новыя плыні думак: тэзы пазітывізму, рэалізму, натуралізму, а маладыя польскія франдзёры падхапілі лозунг “працы арганічнай, працы з асновамі”. Крашэўскі, а пазьней і Сянкевіч з Жаромскім, прымалі ўдзел у дыскусіях, палеміцы, якія датычылі новых ідэяў і мастацкіх праектаў, новых задач, што ставіліся перад літаратурай.

Тыя новыя зьмест і тэндэнцыі павінны былі аказаць уплыў на іх творчасьць. Новыя ідэі, згодна з дарвінскай навуковай тэорыяй эвалюцыі, няўхільна несьлі зьмены ў духоўным жыцьці, культуры, цывілізацыі – надыходзіла эра паступовай дэмакратызацыі жыцьця эўрапейскіх грамадстваў.

***

Я пад’яжджаю да Ганны, дзе, як кажа мясцовая старая чутка, па дарозе ў Літву затрымалася са сваім картэжам каралева Польшчы Ганна Ягелонка, дачка караля Зыгмунта Старога і Боны. Праехаўшы 28 кіламетраў, я заяжджаю пад браму музея Ю.І.Крашэўскага ў Раманаве. Далучаюся да групы, што аглядае экспазіцыю, і крок

за крокам, зала за залай, у чарговы раз лаўлю словы экскурсавода, і зноў я пад уражаньнем таленту і тытанічнай працы вялікага творцы. Выходжу ў парк, на мяне з годнасьцю пазіраюць векавыя яліны, якія памятаюць малога Юзю.

Манументальныя дрэвы,
Муза – мастацкая літаратура
І даўнейшая архітэктура…
Гэта ж папраўдзе асалода?
Ці, можа, фата-маргана,
"Ульяну", "Старую казку"
Натхніла, раскалыхала…!

Ціха, пахне вясною. Узрушаны, сядаю на лавачцы ля помніка літаратару і праз хвіліну адыходжу. Бывай, Раманаў, кірунак – музей Сянкевіча.

Я еду праз Саснуўку, Вішніцу – тут на гістарычных уніяцка-каталіцкіх могілках пахаваны прабабка і маці, а таксама браты Крашэўскага, Люцыян і Каетан. У 1753 годзе у час Калядаў Ігнась Красіцкі (біскуп і паэт) у вішніцкім касьцеле прамовіў казаньне. Прымем да ўвагі, што тут Ю.І. Крашэўскі напісаў манаграфію "Красіцкі, жыцьцё і творчасьць".

***

Пад'яжджаю да Радзыня Падляскага, дзе знаходзіцца пышны XVIII-вечны палац стылю ракако з паркам і аранжарэяй. Тут была сядзіба Патоцкіх герба Пілява. У гэтым цудоўным магнацкім маёнтку ў 1750 годзе нарадзіўся Ігнась Патоцкі, інтэлектуал (вучыўся ў Рыме), актыўны удзельнік Вялікага Сойму, рэфарматар, суаўтар Канстытуцыі 3 траўня, масонскі дзеяч асьветы. Быў адным з кіраўнікоў касьцюшкаўскага паўстаньня, валодаў тытулам Вялікага Літоўскага Маршалка, быў таксама гаспадаром мястэчка Кураў каля Любліна. Згадаю яшчэ, што ў час польска-бальшавіцкай вайны ў палацы кватараваў генерал Рыдз-Сьміглы.

***

Далей я еду ў накірунку да Лукава, у якім знаходзіцца помнік Генрыка Сянкевіча. Лукаў – гэта адзін са старэйшых гарадоў Любельшчыны, налічвае амаль 800 гадоў. Адтуль, едучы праз Вайцешкаў, дзе на цьвінтары знаходзіцца месца спачыну Марыі, трэцяй жонкі пісьменьніка, у дзявоцтве Бабскай, заяжджаю ў ма-

ленькую вёску Бужац, дзе малады Генрык бываў на канікулах у сваей цёткі. Там жа непадалёку знаходзіцца некалькі мясьцінаў, зьвязаных з Сенкевічавымі героямі, а таксама палац у Рудзе, дзе творца пісаў ўсё лета 1880 году. Сянкевіч у сваіх творах апісваў Бужац: сажалку, роў, старажытную алею.

Пасьля той цікавай экскурсіі, рамантычнай, што выклікае роздумы і унутраны спакой, я празь вёску Адамаў пад'яжджаю да месца нараджэньня Генрыка Сянкевіча. Я ў Волі Акшэйскай.

У гэтым месцы некалькі слоў, сваіх згадак – памятаю, як падлеткам я вельмі пераживаў над лёсамі Стася і Нэль, героямі кніжкі "У пустыні і пушчы", якую чытаў пры газавай лямпе, бо ў той час у маёй Недзьвядзе яшчэ не было электрычнасьці.

Прагульваюся па парку, што атачае сядзібу:

Навокал нібыта ў блішчынках – радасна,
Вясны аздоба чарадзейная!

Годна цьвітуць каштаны,
На сакавітых газонах –
Кілімы вясёлых маргарытак.

Стаіць у глыбіні парку
Статуя Маячніка
Ёсьць і Янка-Музыка.

Непадалёк Азія з рыбай,
Незабыўны Заглоба,
Міхал Валадыёўскі,
Нэль, Стась і сабака Саба!

Гэта дасканалы дэкор
Здаровай канкурэнцыі
Дзеля славы мэтра!

Вышэйзгаданыя цудоўныя драўляныя скульптуры былі з піетэтам выкананы народнымі мастакамі.

У такім арыгінальным, нешаблонным, па-сапраўднаму сянкевіцкім сцэнічным афармленьні, я дыхаю навакольлем, у якім рос малады Генрык. Сярод ганаровых гасьцей, якія бывалі ў дзедаўскім маёнтку пісьменьніка, я назаву Яўхіма Лелевеля і Тадэвуша Касьцюшку.

Заходжу ў музей. З зацікаўленасьцю асьвяжаю розную інфармацыю, прабягаю вачыма па некаторых выдадзеных ста-

ронках, прыслухоўваюся да голасу работніка музея, які тлумачыць, робіць больш вобразнымі цікавыя падрабязнасьці жыцьця пісьменьніка, раблю запісы, а потым еду за 3 км да Акжэі, дзе на парафіяльным цьвінтары знаходзіцца магіла маці Нобелеўскага лаўрэата. Там, у настальгічнай цішыні парафіяльнага касьцёла – хвіліна медытацыі, і пасьля я забіраюся на курган, насыпаны ў гонар пісьменьніка.

Знаходзячыся ў тым навакольлі, трэба сказаць, што зь сямейнымі ўспамінамі Генрыка Сянкевіча зьвязаны такія мясьціны, як Воля Гулоўска, дзе правяла апошнія гады жыцьця яго маці, і Адамаў, куды малады пісьменьнік конна езьдзіў за лекамі для яе.

***

Перада мною чарговая мэта падарожжа – музей Стафана Жаромскага. Я еду праз Рыкі, Кураў, Маркушаў у Наленчаў, вядомую курортную і санаторную мясцовасьць, са шматлікімі забавамі, з водным паркам. Курорт стаў модным і папулярным ужо ў другой палове XIX стагоддзя. Нагадаю, што тут таксама бываў Генрык Сянкевіч, выступаў з канцэртамі Ігнась Ян Падарэўскі. Сэрцам курорту зьяўляецца 20-гектарны аздараўляльны парк, дзе ў 1928 годзе быў адчынены помнік пісьменьніку. На вуліцы Жаромскага перад маімі вачыма зьяўляецца адзін з самых старых літаратурных музеяў Польшчы, афармлены ў гуральскай хаце зь бярвеньняў.

У ваколіцы Арматнай Гуры
Віднеюцца контуры падгалянскага
Доміка з ганкам.
Унутры хаты –
Багатая калекцыя экспанатаў.

Навокал – велічныя туі,
Вялікія старыя дрэвы
І цяністая дубовая алея.
Тут майстар каваў свае тэксты
І іх ценем астужаў і песьціў…

А ў глыбіні ж – Адамава, сынава
Спачывальная капліца
Смутная і незвычайная.

Музей той – духоўная сядзіба,
Непаўторных мясьцінаў Наленчава.

Я аглядаю асобныя экспанаты, прабягаю вачыма брашуры, што мяне зацікавілі, і яшчэ раблю кароткі шпацыр па аздараўляльным парку. Зараз я хачу паведаміць цікавую зьвестку, што сьведкам на шлюбе Стафана Жаромскага таксама быў вялікі пісьменьнік эпохі пазітывізму Баляслаў Прус, які нарадзіўся ў Грубешове, аўтар раманаў “Лялька” і “Фараон”, якія сталі сцэнарамі фільмаў.

Прус, сапраўднае імя якога Аляксандр Главацкі, гербу “Прус”, публіцыст, патрыёт, паранены ў час студзеньскага паўстаньня, а потым увязьнены ў Люблінскім замку, паходзіў са шляхецкага роду. У дзіцячыя гады і раньняй маладосьці жыў у Пулавах і Любліне. Часта наведваў Альшэўскіх, сям’ю матчынага брата, што жылі ў Любартове. Перад напісаньнем “Фарпосту” ён хадзіў па вясковых хатах, гутарыў і рабіў запісы да таго рамана. Быў майстрам навэлы, асабліва каштоўныя зь якіх “Кацярынка”, “Камізэлька”, “Грахі дзяцінства”, “Памылка”, “Паўторная хваля” і “Антак”.

У час падарожжа ў Ведню Прус сустрэў і зблізіўся з Ю. І. Крашэўскім, а калі знаходзіўся ў Швейцарыі – гасьціў у Стафана Жаромскага. Цягам больш чым 30 гадоў улюбёным месцам яго штогадовага адпачынку быў менавіта Наленчаў, там зараз музей пісьменьніка, які займае частку палаца Малахоўскіх. Знаходзячыся на курорце варта, нават неабходна наведаць і пазнаёміцца з гэтым месцам.

***

Так я чарговы раз скончыў сваю вандроўку па музеях на багатай і непаўторнай любельскай літаратурнай трасе. Ад Раманава да Волі Акшэйскай 114 км, а адлегласьць ад Волі Акшэйскай да Наленчава – 77 км. Такім чынам траса налічвае каля 190 км.

У кожным з тых музеяў запальваецца гістарычны бляск творчасьці, якой пісьменьнікі адважна, па-рыцарску фехтавалі, перакананыя ў неабходнасьці захаваньня народнай культуры на цяжкай, гераічнай дарозе да незалежнасьці. Мэтры польскай прозы падаравалі нам сотні патрыятычных вобразаў, прасякнутых духам замілаваньня польскасьцю, намалёваных словамі, якія як волат, магутна прабіваліся праз краты прыгнёту, бяспраўя, шантажу, страты нацыянальнага аблічча, планавай русіфікацыі і германізацыі, што сілаю праводзіліся акупантамі. Тыя выявы, творы пісьменьнікаў, у працяглым змроку безьдзяржаўнага існаваньня і разьвіцьця, дзейнічалі жыватворна, стымулявалі польскі дух і нацыянальную годнасьць. Толькі б і надалей са старонак кніг і з экранаў

яны выпраменьвалі сувязь, асацыяцыі і пачуцьці шматвекавога адзінства нашых польскіх сэрцаў, у самыя далёкія іх закуткі.

Пры аналізе твораў Крашэўскага, Сянкевіча і Жаромскага трэба бачыць той асаблівы гістарычны кантэкст часоў, у якія ім прыйшлося жыць і ствараць. Я раблю на гэта акцэнт, бо гістарычныя факты цяжэй за творчасьць паддаюцца рэлятывізму,:

Бо вечна **Вялікія Тыя,**
Хто не зважаючы на церні
**Верай і праўдай служылі нацыі!**

Яшчэ я думаю, што музеі і іх атачэньне – гэта месцы асабліва прыгожыя для людзей, якім блізкі міфічны Пегас, бо яны таксама поўныя паэтычнага шарму.

***

Гэта быў плённы дзень, столькі пачуцьцяў, узрушэньняў, інфармацыі і натхненьня напісаць некалькі вершаў, прысьвечаных цудоўным постацям польскай літаратуры. Гэта яны патрыятычным словам, асабістым прыкладам схілялі палякаў да дзеяньняў на справу вяртаньня дзяржаўнасьці, незалежнасьці і свабоды. Знаёмячыся бліжэй зь біяграфіямі і творчасьцю пісьменьнікаў, я прыйшоў да высновы, што кожны зь іх – гэта творчы гарачы гейзер, вялікая індывідуальнасьць і своеасаблівая літаратурная зьява з багатай моваю і стылем. Агульным у іх біяграфіях зьяўляецца тое, што жылі яны ў часы дэспатызму акупантаў, у часы доўгай і смутнай ночы няволі. Толькі Жаромскі дачакаўся першых гадоў адроджанай, вольнай Айчыны.

Як шматгадовы чытач сельскай бібліятэкі, я лічу, што зусім неацэненымі зьяўляюцца заслугі пісьменьнікаў у распаўсюджваньні чытаньня, папулярызацыі раманаў і фармаваньня любові да кніжак, а яшчэ – што вельмі важна – разгортваньні і ўмацаваньні адукацыйна-культурных пазіцый тысячаў малых бібліятэк.

Гэтыя кемлівыя, з моцнымі індывідуальнасьцямі палякі былі, і па сёньня ёсьць вялікімі архітэктарамі польскага патрыятычнага запалу ў мільёнах сэрцаў суайчыньнікаў. Яны стваралі свае працы, – гэта належыць падкрэсьліць зь вялікай рашучасьцю, - пад ціскам няспыннага, бязьлітаснага акупацыйнага нагляду і цэнзуры, асабліва нахабных у адносінах да ўсялякіх патрыятычных праяваў. Пасьля разьдзелаў, у разарванай Польшчы кожны зь іх меў свой досьвед зьнявагаў, бунтаваў супраць дэнацыяналізацыйнай палітыкі

захопнікаў, падаўленьня польскасьці ва ўсіх разгалінаваньнях жыцьця, выдаленьня польскай мовы зь дзяржаўных установаў і школаў; пратэставаў супраць нагляду, перасьледу навукова-творчых колаў, рэпрэсій у адносінах да цэлых населеных пунктаў, сацыяльных групаў і сем'яў, масавых дэпартацыяў за Урал.

Нашыя патрыёты-пракорокі бачылі, як шмат паўстанцаў выракана да шляху пакутаў, сібірскай Галгофы, або да пекла бадзяжніцтва, туляньня і жабрацтва. Іх творчае ўяўленьне, пластычная, экспрэсійная мова нібыта акіян, вулкан гістарычных, эмацыйных перажываньняў аб Айчыне!

Слава ім за натхненьне,
За шматлікіх герояў,
Годных учынкаў праменьні!

Якія стваралі паходню -
Узьняты ў народзе
Магутны, аб'яднаўчы заклік:
Толькі б полымя імкненьня да **Волі**
Ніколі ня згасла!

Ужо пры жыцьці пісьменьнікаў, у часы разьдзелаў, іх цудоўны плён айчыннай думкі быў як зерне засеяны у сэрцы шматлікіх палякаў, гэтая сьвятая пасяўная звалася **"Яшчэ Польшча не прапала**". Яны былі і застаюцца творцамі нацыянальнай фантазіі, нацыянальнай тугі і сумленьня. Сваім жыцьцём і творчасьцю яны надалі больш глыбокі і поўны сэнс разуменьню Радзімы. Менавіта калі чытаем біяграфіі і вынікі творчасьці празаікаў, мы ўведваем дух той эпохі, у якой асноўным пытаньнем былі мары і імкненьні да незалежнай Айчыны, потым расчараваньні, асабістыя трагедыі і нацыянальная траўма пасьля паўстаньня.

Сёньня мы зноў вымушаны ўвесь час згадваць пра асаблівых герояў тых гадоў, якія сваёй пісьменьніцкай, публіцыстычнай дзейнасьцю ў эстафеце пакаленьняў з такім посьпехам уздымалі дух польскіх сэрцаў, несьлі каганец польскасьці і пад радзімыя стрэхі і ў салоны Эўропы; а такімі мужчынамі-героямі ў складзе польскай культуры былі і ёсьць Крашэўскі, Сянкевіч і Жаромскі, якія:

Не шкадавалі сілаў
У пошуку шляхоў да
Незалежнасьці!

Такія як яны стваралі
Уяўленьні і прасекі для дарог
Да сучаснай
Нам – **Вольнай Польшчы!**

Беручы пад увагу шмат нацыянальных адчуваньняў, я лічу – належыць глыбей паказваць тое, што калі на мапе сьвету не было Польшчы, а захопнікі розным чынам праводзілі палітыку уціхамірваньня, дыскрымінацыі, **польскія кнігі, польскія пісьменьнікі былі бясцэннай каштоўнасьцю**.

Таму іх дасягненьні трэба ацэньваць не толькі зь літаратурных пазіцый, але і ў катэгорыях заслуг падчас доўгай і гераічнай барацьбы за **Сьвятую Справу – Польскасьць і Незалежнасьць**, падкрэсьліваць і ацэньваць яшчэ і тое, што іх творчасьць апрача патрыятычнай і гістарычнай тэматыкі зьяўляецца вельмі багатай на шматлікія іншыя агульначалавечыя матывы.

З той шчодрай творчай скарбніцы чэрпалі і чэрпаюць натхненьне і веды пазьнейшыя творцы польскай літаратуры, кінематаграфісты, навукоўцы, настаўнікі, студэнты і школьнікі. Да сёньня адукацыйнае, выхаваўчае, культурнае жыцьцё ў школах, бібліятэках выдатным чынам узбагачаюць кнігі нашых вялікіх пісьменьнікаў. Так што ўнёсак іх у нацыянальную скарбінцу культуры зьяўляецца невычарпальным.

Зь іх эпохі музейныя салоны
Нібыта неонавыя агні мудрасьці,
Паэтычныя, як крылы натхненьня!

З шолахам нясуць нас,
Захоўваюць незахавальнае –
Як амброзія захоўвае маладосьць…

***

Перажытае ў Раманаве, Волі Акшэйскай, Наленчаве будзяць у ва мне гонар, што я паляк. Гэта месцы, зь якіх выпраменьваецца вялікае духоўнае багацьце, якое – як даказвае гісторыя – зьяўляецца больш каштоўным і трывалым за багацьці матэрыяльныя. З такім пераканаьнем, з пачуцьцём уласнай годнасьці што мне давялося яшчэ раз пабываць на духоўным балі ў музеях, і хоць трохі зачарпнуць зь іхняй шматузроўневай жыцьцёвасьці, я расслаблена шпацырую па наленчаўскім курортным парку.

Наперадзе кароткі, 20-кіламетровы рывок да Любліна, сталіцы рэгіёна і самага вялікага горада Польшчы на правабярэжжы Віслы, дзе першыя пасяленьні датаваны VI векам. Празь Люблін праходзіць старажытны шлях нашых продкаў – каралёў, мастакоў і купцоў, сёньня вядомы як Ягайлаў Шлях – Кракаў-Люблін-Вільня.

У багатай літаратурнай біяграфіі Любельшчыны мы знойдзем пышныя прозьвішчы. Бернат зь Любліна, які нарадзіўся каля 1465 года, прыдворны лекар, вядомы старажытнапольскі паэт і перакладчык, байкапісец, праціўнік вайны і сьмяротнай кары эпохі Рэнесансу. Ігнась Красіцкі, паэт, празаік і публіцыст, між іншым быў прэзыдэнтам Кароннага Трыбуналу ў Любліне. Мікалай Рэй і Вінцэнт Поль. Мікалай Рэй, пратэстант зь яркай біяграфіяй, адзін зь першых паэтаў, што пісалі па-польску, заснаваў горад Раёвец, які сёньня разьмешчаны ў межах хэлмскага павету. Гэта ён у зборніку сатырычных эпіграмаў "Зьвярынец", 1562 году, зьмясьціў вядомае пасланьне, выдатнае і патрыятычнае:

**А няхай народы чужыя**
**Ведаюць урэшце –**
**Палякі ня гусі, яны сваю**
**Мову маюць.**

Мікалай Рэй

Горад Люблін асаблівым чынам уганараваў Вінцэнта Поля, паэта і празаіка, члена Акадэміі навыкаў, стварыўшы яму біяграфічны музей у сядзібе класічнага стылю, якой валодаў яго бацька. Музей знаходзіцца пад адкрытым небам. Вінцэнт Поль нарадзіўся ў Любліне ў 1807 годзе, вучыўся ў Львове, меў багатыя, рознабаковыя інтарэсы. Вандраваў, старанна і працавіта займаўся геаграфіяй, этнаграфіяй і прыродай. Гарачы патрыёт, у час лістападаўскага паўстаньня быў паранены.

З гэтымі тэрыторыямі зьвязаны таксама і Юліян Урсын Нямцэвіч, драматург, паэт, раманіст, мемуарыст, масон, які нарадзіўся на Падляшшы ў шляхецкім родзе гербу Равіч, пазьней род быў адным з самых багатых на Палесьсі. Літаратар быў зьвязаны з сям'ёю Чартарыйскіх, будучы цягам шасьці гадоў ад'ютантам Адама Казіміра Чартарыйскага. У той час Нямцэвіч часта наведваў Пулавы. У яго багатай творчай спадчыне ёсьць паэма "Пулавы". Пасьля касьцюшкаўскага паўстаньня, у якім выконваў абавязкі сакратара Галоўнакамандуючага, два гады быў вязьнем у Пецярбургу.

У вышэйзгаданым годным асяродку вялікіх творцаў, якія маюць сувязі з Любельшчынай, нельга не назваць Адама Станіслава Нарушэвіча, гербу Вадовіч. Езуіт, біскуп, патрыёт, гісторык, сатырык, байкапісец, давераная асоба і дарадца караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, а таксама гарачы прыхільнік Канстытуцыі 3 траўня. Нарушэвіч, народжаны на Палесьсі, жыў у Янаве Падляскім (цяперашняе любельскае ваяводства), дзе і памёр. Быў пахаваны ў крыпце мясцовага касьцёла, там знаходзіцца выкананы ў стылі неакласіцызму белы мармуровы помнік.

Сталіца Любельшчыны – Козі Груд з цудоўным каралеўскім замкам і гістарычнай Старуўкай – гэта сямейны горад Юзафа Чаховіча, польскага паэта-авангардыста міжваеннага перыяду. Ён зьяўляецца выбітным творцам, аўтарам шматлікіх настальгічных работ, прысьвечаных Любліну. Дабраахвотна прымаў удзел у польска-бальшавісцкай вайне.

Цяпер, калі ягайлаўскі кірмаш
Вакол Трыбуналу віруе,
Ля яго музею шарманшчык
Мелодыю даўнюю грае!

З Любліна паходзіў забыты журналіст і пісьменьнік Клеменс Юноша Шаняўскі, які так узьнёсла і чароўна пісаў пра Люблін: "… раськіданы на пяці пагорках, выглядае наш родны горад нібыта Рым …".

Зь Любельшчынай быў зьвязаны і іншы вядомы паэт міжваеннага часу дваццатага стагоддзя – Баляслаў Лесьмян, які пасьля Першай сусьветнай вайны пасяліўся ў Грубешове, а празь некалькі гадоў пераехаў у Замосьце. Меладычную паэзію Лесьмяна называлі заклікам да любові. Быў ён таксама і эсэістам, чалавекам вялікай культуры. Другі польскі паэт, аўтар вядомых казак, Ян Бжэхва – гэта яго стрыечны брат, які нарадзіўся і правёў маладосьць на Усходніх Крэсах.

Ілюструючы сьпектр творцаў на літаратурнай Любельшчыне трохі шырэй, трэба ўзгадаць Вальдэмара Міхальскага, які піша і зараз, літаратурнага крытыка, эсэіста, сакратара рэдакцыі вельмі вартага, з высокім прафесійным узроўнем, штоквартальнага часопіса "Акцэнт. Літаратура і мастацтва", які ў каштоўнай анталогіі пад назовам "Пяць вякоў паэзіі пра Люблін" зьмясьціў творы больш за ста паэтаў. Вось некалькі даўнейшых: Ян Каханоўскі, Каетан Казьмян, Францішка Арштайн; або тых, што пісалі параўнальна нядаўна: Эва Шальбург-Зарэмба, Юзаф Лабадоўскі, Стафан

Вольскі, Тадэвуш Квяткоўскі-Цугаў і хто піша цяпер: Лёнгін Ян Окань, Станіслаў Попак, Юзаф Ф. Фэрт, Зьбігнеў Вальдэмар Окань, Уршуля Гершонь, якая выконвае функцыі старшыні любельскага аддзяленьня Саюза Польскіх Літаратараў. Сярод некалькіх дзясяткаў прозьвішчаў я яшчэ нагадаю тых, каго ўжо няма сярод нас: Ярас Уршуля, Апалінар Насальскі.

Хачу адзначыць, што паміж Віслай і Бугам у шматлікіх мясцінах паўсюль ёсьць шмат сэрцаў, што пульсуюць прыгажосьцю паэтычнага і празаічнага натхненьня. Сучасным асяродкам літаратурнага жыцьця апрача Любліна зьяўляецца 70-тысячны горад Хэлм, дзе даўней друкавалася перыядычнае літаратурнае выданьне "Паэзія" ("Kamena"). Яго першы нумар выйшаў у 1933 годзе. Заснавана было паэтам, настаўнікам Казіміра Анджэя Яворскага. У часопісе свае творы публікавалі шмат вядомых літаратараў, такія як Чэслаў Мілаш, Юльян Пшыбась, Юльян Тувім. Сучасным наступнікам штомесячніка зьяўляецца "Дарадца" ("Egeria"), а яго выдаўцом і вядучым рэдактарам – Вальдэмар Таўрагінскі. Яшчэ тут актыўна, са знаходлівасьцю дзейнічае пад старшынством паланісткі і паэткі Дануты Макарук, хэлмская літаратурная група "Любельская 36".

З плеяды творчых сучасьнікаў назаву яшчэ хоць невялікую яе частку: д-р Юзаф Зінчук, д-р Эва Мазур, Зьбігнеў Стшалкоўскі, Войцех Прухневіч, д-р. н. Тадэвуш Карабовіч, д-р Марыя Юзафацка, Кшыштаў Калтун, Аркадзь Сан, Галіна Грабась, Генрык Жукоўскі (літаратурны псеўданім Рышард Зарэвіч), які дарэчы зьяўляецца яшчэ тэатральным акторам і рэжысёрам.

***

Пасьля Любліна еду далей праз Ленчна і Уршулін, дзе знаходзіцца дырэкцыя Палескага нацыянальнага парку, ўсё бліжэй да дому.

Яшчэ на трасе да Уладавы, недзе ў сярэдзіне Лэнчынска-Уладаўскага Паазер'я, раблю невялікі прыпынак у Палескай карчме, бо:

…ля шашы ў Калачах!
Калі ласка, васпані, у карчме варта
Па-сармацку пагасьцяваць…

Там падаюць рэгіянальныя стравы, а ад этнаграфічнага музея-запаведніка ў старой палескай сядзібе вее настроем любельскай вёскі з часоў, калі са шляхецка-сялянскай настойлівасьцю жылі і працавалі нашыя слынныя пісьменьнікі. Дадам яшчэ, што інтэр'ер карчмы абсталяваны ў духу даўнейшага мультыкультуралізму.

Я выязджаю з Калачаў, і празь некалькі дзясяткаў кіламетраў дарогі па старых уладаўскіх лясах мяне вітае надпіс “Памежная зона”, а ў аддаленьні ўжо мігцяць агні.

Замкнулася поўная духоўных багацьцяў, цудоўная Любельская Літаратурная Траса. Я даязджаю да Уладавы, старажытнага горада над Бугам з рыцарам на гербе, гарадское права якому надаў кароль Зыгмунт I Стары каля 1530 года.

Прырода ля Буга,
Доўгая гісторыя сьвятыняў,
Іх багаты інтэр’ер
Будзяць у душы правінцыяла
Сумныя і летуценныя настроі!

Крашэўскі наведваў і начаваў ва Уладаве. Гэтаю дарогаю езьдзілі коннымі экіпажамі, якімі шмат разоў карыстаўся і пісьменьнік, вяртаючыся ў Раманаў, або едучы праз Хэлм на Валынь, ці з Луцка да Роўна, і далей да Жытоміра. Тут, на гістарычным чатырохкутным дзядзінцы, атрымаўшы знак у выглядзе фашыны з палескіх дубцоў, зьядналі свае войскі Валадыёўскі з Бахунам. Гэта таксама горад, які меў і заўжды мае сваіх нястомных, шляхетных Юдымаў і старанных, пазітыўных Сілачкаў. Назаву хоць бы тых, хто аддае свае сэрцы надбужанскай культуры: Таварыства Творцаў Надбужанскай Культуры, якое аб’ядноўвае паэтаў, скульптараў, мастакоў і яшчэ сьпеўны калектыў “Крэсавянкі”, якія сьпяваюць старыя ускраінныя песьні.

Каштоўнай для рэгіянальнай культуры зьяўляецца таксама праца Уладаўскага Дома Культуры, які папулярызуе, ладзіць шматлікія імпрэзы, у тым ліку штогадовыя беларуска-украінска-польскія сустрэчы народных калектываў пад назовам “Каляды і шчодрыкі на Бугу”.

Уладава – гэта мой любімы горад , горад трох старажытных, гістарычных бажніц і цудоўных фестываляў: “Палескае фальклорнае лета” і “Фестываль трох культур”, апорнымі слупамі якіх зьяўляюцца касьцёл паўлінаў, праваслаўная царква і сінагога, у якой месьціцца музей.

Мяжа з Украінай і Беларусьсю, шматвекавая гісторыя, храмы, атачэньне азёрамі і лясамі, разьмяшчэньне на абрывістым беразе, на злучэньні двух рэк, Буга і Уладаўкі, прыводзіць да таго, што горад трох культур – Уладава мае свае непаўторныя ускраінныя палескія чары, зь якіх бруяцца бадзёрыя, рамантычныя натхненьне, лірыка і паэтычнасьць, якія перадаюцца мне творчым настроем.



# II
# Юзаф Ігнась Крашэўскі

## Эскіз біяграфіі

Юзаф Ігнась Крашэшскі, пісьменьнік, публіцыст, выдавец, гісторык, мастак, графік, грамадскі і палітычны дзеяч, перакладчык (у пяці мовах), самы пладавіты аўтар у гісторыі польскай літаратуры. Карыстаўся шматлікімі літаратурнымі псеўданімамі: Багдан Баляславіта, д-р Амега, Пастарнак і інш. Ён нарадзіўся ў 1812 годзе ў Варшаве ў памешчыцкай сям'і. Бацькі жылі на гарадзеншчыне каля Пружанаў у сваім маёнтку Доўгае. Род ужываў герб Ястрабец.

Малы Юзаф да 15 году жыцьця выхоўваўся ў Раманаве, непадалёк ад Уладавы, пад апекай бабулі Ганны Мальскай і прабабулі Канстанцыі Новамейскай. Там упершыню зацікавіўся культурай і літаратурай. Вучыўся ў факультатыўнай школе Бялай Падляскі (1822-1826), у ваяводскай школе Любліна (1827-1829), дзе здаў экзамен на атэстат сталасьці. У 1829 годзе паступіў на медыцынскі факультэт Віленскага унівэрсітэта, але неўзабаве перайшоў на літаратуру. У сьнежні 1830 года за змоўшчыцка-паўстанцкую дзейнасьць быў разам з групай моладзі арыштаваны. У турме, а потым у турэмным шпіталі знаходзіўся да сакавіка 1832 года.

Крашэўскі ўражвае маштабнасьцю сваіх прац і яго называюць "Бацькам польскага рамана". Ён, без уліку рэдакцыйнай працы, мноства артыкулаў у часопісах і велізарнай прыватнай карэспандэнцыі, напісаў і выдаў каля 600 тамоў. Сярод тых, хто адпраўляў пісьменьніку лісты ёсьць сярод другіх такія прозьвішчы, як Цыпрыян Каміль Норвід, Генрык Сянкевіч, Адам Аснык, Эліза Ажэшка, Станіслаў Манюшка, Юліюш Косак і шмат іншых, дагэтуль вядомых і шануемых знакамітасьцяў польскай культуры. Асобнай групай карэспандэнтаў стаяць журналісты – падлічана, што ён кантактаваў са 144 рэдакцыямі. Усяго напісаў каля 400 твораў, самай жа важнейшай галінай творчасьці Крашэўскага зьўляюцца яго раманы. Цягам 57 гадоў ён напісаў іх 234, у тым ліку 144 – сацыяльных, бытавых, вясковых раманаў і 88 гістарычных. Для згадкі – ён апрача іншых твораў зьяўляецца аўтарам "Старой казкі" – самай чытэльнай яго кніжкі, "Уляны", "Хаты на водшыбе", "Графіні Косэль". Другія цікавыя кніжкі, гэта "Ярына", "Марытуры", "Пане каханку. Драматычныя гісторыі ў трох дзеях", "Ліхтар чарнакніжніка", вобраз тагачаснага стану арыстакратыі і шляхты – "Раман бяз назвы" – адзін з найпрыгажэйшых твораў аўтара. Дзякуючы велічэзнаму творчаму набытку ён стаў нацыянальным педагогам у асьветніцкай, навуковай і грамадскай працы.

Крашэўскі перакладаў з розных моваў, сам рэдагаваў і выдаваў кніжкі. Меў і палітычны тэмперамент. Будучы прадстаўніком памяркоўных ліберальна-дэмакратычных ідэяў, праводзіў дзейнасьць крытычнага накірунку да кансерватараў. Крытыкаваў арыстакратыю за эгаізм, частае прыстасавальніцтва да захопнікаў, і выказваўся за разьняволеньне сялянаў. Атрымаў заўвагу на аўдыенцыі ў Папы Пія IX за "немаральныя" тэндэнцыі твораў, што прадугледжваюць праграмы пазітывізму. Пасьля правалу студзеньскага паўстаньня палемізаваў і змагаўся ў прэсе з інсьпіраванай царскімі службамі антыпаўстанцкай прапагандай.

Крашэўскі вандраваў па Палесьсі, у якім разьмясьціў падзеі рамана пра чалавечыя жарсьці, гераіняй якога была чароўная паляшучка, паказаная ўжо ў назве кніжкі, Уляна. Дадам, што ў першай версіі кніжка мела назву "Паляшучка", пра што піша ў сваіх гістарычна-літаратурных нарысах пад назовам "Крашэўскі" Станіслаў Буркот. Пісьменьнік ведаў і любіў Крэсы, жыў на Валыні, потым працаваў у Жытоміры куратарам польскіх школаў, дырэктарам Жытомірскага тэатра. Таксама быў дырэктарам Шляхецкага клуба і старшынём Дабрачыннага Таварыства. Падарожнічаў у Кіеў і Адэсу. Любіў коней і конна езьдзіць. Знаходзячыся ў Жытоміры на пасадах, набыў уласнага каня для прагулянак конна.

У 1860 годзе пісьменьнік пераехаў з Жытоміра ў Варшаву, дзе стаў галоўным рэдактарам "Газэты цодзеннэй". Крашэўскі, які прадстаўляў нястомна шчыры і гарачы патрыятызм, да свайго 50-годдзя дачакаўся ўва ўсіх трох акупаваных тэрыторыях, у шматлікіх гарадах, ад розных нацыянальных, патрыятычных асяродкаў вялікай павагі і пашаны, якія засьведчылі, што ён пасьля правалу студзеньскага паўстаньня быў ідэйным лідэрам нацыі. На галоўных, шматдзённых урачыстасьцях у Кракаве, якія адбыліся 3-7 кастрычніка 1879 года і закончыліся балем у Сукеньніцах, Крашэўскі выступіў з цудоўнай юбілейнай прамовай пра любоў да Айчыны, культуру, гісторыю і неабходнасьці працы на карысьць нацыі. Урачыстасьці былі буйнай маніфестацыяй еднасьці нацыі, а таксама сілы польскай культуры, адзінага на той час бастыёна, які бараніў самастойнасьць польскага духа. Ён быў адзін зь нямногіх польскіх пісьменьнікаў тагачаснага перыяду, якога ведалі ў шмат якіх краінах, пра якога пісалі і якога паважалі ў інтэлігенцкіх асяродках усёй Эўропы. Звыш сотні яго твораў перакладзены на чужыя мовы. Як мастак, графік маляваў акварэльныя выявы, партрэты – працамі мастака, між іншым, сёньня аздоблены Нацыянальныя музеі ў Варшаве і Кракаве, а таксама Вялікапольскі музей у Познані. Больш за тое: быў віртуозам-аматарам –піяністам, кампазітарам, сур'ёзным калекцыянерам гравюраў, малюнкаў, медалёў, і графікі. У сваю эпоху яго лічылі ўсебаковым і выключным інтэлектуалам. Ён быў глыбока паважаны, шанаваны, і яго нызвалі "чалавекам-установай". Крашэўскі дыстанцыраваўся ад гэтага ўсяго. Усьведамляючы сваю папулярнасьць і свае таленты са спакоем, шчыра пісаў пра сябе так:

"Я, падобна на тое, не літаратар і не мастак, хоць шмат пішу і люблю ўсялякую прыгажосьць – я зьяўляюся чалавекам майго веку, дзіцем майго народу".

У 1883 годзе ён быў арыштаваны ў Берліне па абвінавачваньні ў шпіянажы супраць Прусіі, на карысьць Францыі. Судом у Ліпску быў вырачаны на тры з паловай гады ў магдэбургскай крэпасьці, але з прычыны хваробы лёгкіх у 1885 годзе быў выпушчаны пад вялікі грашовы заклад. Пакінуў турму і выехаў на лячэньне за мяжу, адкуль, нягледзячы на патрабаваньні нямецкіх уладаў, не вярнуўся. У Дрэздэне, у доме на Нордштрасэ, 28, дзе пісьменьнік жыў з 1873 па 1879 гады, разьмешчаны музей Юзафа Ігнася Крашэўскага.

Апошнія гады жыцьця ён правёў у Італіі і Швайцарыі. Знаходзячыся за мяжой, пасьля правалу студзеньскага паўстаньня (1863-1864) сумесна зь іншымі арганізоўваў дапамогу эміграваўшым паўстанцам. Памёр 18 сакавіка 1887 года ў Жэневе. Быў пахаваны ў крыпце для заслужаных людзей на Скалцы ў Кракаве.

Мае помнікі ў Крыніцы і ў Бялай Падлясцы, мемарыяльныя дошкі ў варшаўскім касьцёле Сьвятога Крыжа і інш., у Дрэздэне і Венецыі. У Летуве, ў Вільні яго імя носіць польская сярэдняя школа.

## Музей Юзафа Ігнася Крашэўскага ў Раманаве

28 ліпеня 1962 года, у 150-ю гадавіну нараджэньня пісьменьніка, у Раманаве адчынілі музей Юзафа Ігнася Крашэўскага. У час II Сусьветнай вайны партызанскі аддзел каб не даць магчымасьці гітлераўцам разьмясьціць там пастарунак, падпаліў маёнтак. Лёс занепадаючага зь цягам часу помніка перамяніла рашэньне Люблінскай ваяводскай Народнай Рады ад 23 сьнежня 1958 года аб адбудове сядзібы і ўтварэньні музею. Даўней (у XVI веку) тут знаходзіўся малы паляўнічы замак, а польны гетман літоўскі Раман Сангушка быў уласьнікам навакольных уладаньняў. Потым імі па чарзе валодалі Ляшчынскія і Сапегі. Нерухомая маёмасьць, якая налічвала 2500 гектараў зямлі, у Сапегаў набылі дзед і бабуля пісьменьніка – Ганна і Блажэй Мальскія. Іх унук Юзаф Крашэўскі выхоўваўся ў іх да 15-гадовага ўзросту. У часы, калі малы Юзя бегаў па сядзібным падворку, побач з аднаго боку сядзібы быў флігель, а з

другога знаходзіліся стайні. Навокал, на старых вольхах ля каналаў, шматлікія буслы пабудавалі гнёзды. І па сёньня Раманаў – гэта цудоўны партрэт былога шляхецкага сьвету. Сям'я Крашэўскага распараджалася раманаўскім маёнткам 138 гадоў. Апошнія спадчыньнікі выехалі адсюль перад выбухам II Сусьветнай вайны, у чэрвені 1939 года. У музеі знаходзіцца і стала дзейнічае экспазіцыя "Жыцьцё і творчасьць Ю.І.Крашэўскага". У асобных залах-салонах мы можам пазнаёміцца з рэчамі пісьменьніка і яго сям'і. Пры ўезьдзе захаваліся невялікія вежы ад брамы. Таксама на краі парка знаходзіцца капліца сьв. Ганны, якую фундавала бабуля Ганна Мальска.

Парк захаваў свой даўнейшы выгляд, з алеямі, паабапал якіх горда высяцца старыя яліны і грабы. Ля галоўнай алеі знаходзіцца досыць арыгінальны помнік пісьменьніку – карцінна сядзячая на лавачцы постаць.

Музей арганізоўвае гадавіны, канферэнцыі, конкурсы, розныя спатканьні "з выпадку" і часовыя выставы. Мэтай усіх гэтых імпрэзаў зьяўляецца паглыбленьне ведаў пра пісьменьніка, яго творчасьць і часы, у якіх ён жыў.

**Сядзіба ў Раманаве**

Слава памешчыцкіх усходніх сядзібаў,
З таго гнязда, як вучыць "Клятва".
…Ня кінем зямлю…" – тут рос
Тых часоў тытан і патрыёт.

У раманоўскім фальварку
Ён пазнаваў смак літар,
Абрадаў, дабра, хлеба
І тут бесклапотна бегаў па палях.

Яго называюць бацькам польскага рамана,
Вольхі, яліны і буслы, якія заўжды
Так дбайна, глыбока і жыва
Бярог у душы
Называў раманаўскімі.

Успаміны раньніх гадоў
Як не згасальнае полымя!
Як адчыненае вечка шкатулкі,
Давалі яму цяпло і бляск
Калі знаходзіўся далёка ад блізкіх.

А калі ў маладым сэрцы
Рамантычную запаліў мару!
Як разарваць кайданы,
Прыгнёт маскальскага ярма?!

У лістападаўскі ўздым не зважаў
На арышты і перасьледы,
Быў з Айчынай і з тымі,
Дзе барацьба, дзе паўстаньне
Пісьменства, свае чалавечыя справы
Адкінуў – сябе прысьвяціўшы, аддаўся
Патрыятычным клопатам, ідэалам!

Сядзіба з ганкам сярод
Парку і ялінаў да неба
Памятаюць, заклікаюць, чуюць
У вечаровай або ранішняй цішы
Пісьменьніка, гісторыка і мастака…

Гэта вялікі гонар, што тут
Успаміны дзяцінства
І яго, творцы "Старога паданьня",
Родавае карэньне.

Свае радасьці знаходзіў у грабавай алеі,
Пазіраў на зялёныя шаты,
У сямейнай капліцы ставаў на калені,
Дзе дзіцячыя мары
Чыстыя, як залатыя праменьні.

Тут Юзі малога
Міналі гады бесклапотна,
Пакуль ня рушыў у падарожжа
Каб уведаць сьвет.

Уведваў музыку,
Маляваньне партрэтаў,
Адчыняў гісторыі і
Археалогіі таямніцы.

У Раманаве бабуля
Чытала яму родныя словы,
З нашым, польскім сэнсам,
Якія яго малады розум
Усмоктваў, узбагачаў, песьціў.

Сёньня тут музей.
Праходзяць вякі, і
Нараджаецца ўсё больш гарачая
Патрэба памяці
Пра вялікага славяніна-паляка,
Высакароднага чалавека.

Старажытныя помнікі, муры,
Якія бачылі Крашэўскага
Гэта цудоўнае, аўтэнтычнае
Польскае месца культуры.

Вялікага польскага песьняра сьляды!
Годныя не адзінай нацыянальнай балады!

Гэта месца нашай гісторыі
Дзе гаркота, дзе бітвы,
Малітвы сумневаў,
Але і кніжныя лаўры.
Пабудзь тут духоўна,
Імкніся сюды пасьля!



# III
# Гернык Сянкевіч

## Эскіз біяграфіі

Генрык Сянкевіч, польскі раманіст і публіцыст, нарадзіўся 5 траўня 1846 года ў Волі Акшэйскай, лукаўская зямля. Паходзіў са шляхецкага роду герба Ошык, які па-мячы быў з татараў. “Літвос” – гэта яго літаратурны псеўданім.

У 1858 годзе Генрык пачаў вучыцца ў гімназіі ў Варшаве. Не разьлічваў на фінансавую дапамогу бацькоў , якія знаходзіліся ў перыядзе матэрыяльных праблемаў, узяўся за працу гувернёра ў Плонску, у сям’і Вайгераў. Тым жа часам скончыў гімназію і

атрымаўшы атэстат сталасьці, у 1866 годзе, паступіў на медыцынскі факультэт Галоўнай школы ў Варшаве. Празь некаторы час перайшоў на юрыдычны, а потым на гістарычна-філалагічны факультэт.

У 1869 годзе ён дэбютаваў у якасьці журналіста. Пісаў розныя артыкулы і фельетоны у такія газеты, як “Тыгоднік ілюстраваны”, “Газэта польска”, “Ніва”. Таксама пісаў свае першыя аповесьці: “Дарэмна” (1871), потым “Гумарэскі з партфеля Варашылы”, “Стары слуга”.

У 1876 годзе выехаў у ЗША, адкуль пад уплывам падарожжа у Злучаныя Штаты напісаў некалькі твораў: “Камедыя памылак”, “Праз стэпы”, “Маячнік” і інш. Вярнуўшыся ў Эўропу наведаў Лондан і Парыж. На мапе ягоных падарожжаў былі таксама Канстантынопаль, Атэны, Неапаль, Рым. Пабываў у Іспаніі. Аповесьці і карэспандэнцыі з чарговых падарожжаў умацавалі ягоныя літаратурныя пазіцыі, павялічылі папулянрасьць, дзякуючы ім ён стаў знакамітым.

З цікавых выпадкаў прыватнага жыцьця варта згадаць тое, што яно было даволі складанае і ўразьлівае. Двойчы сарваныя заручыны, тройчы жанаты, усе жонкі мелі імя Марыя. Першы раз ажаніўся з Марыяй Шаткевіч, якая заўчасна памерла. Яна нарадзіла іх сына і дачку. Захапляўся паляваньнем, між іншым паляваў у Афрыцы на буйвалаў, паляваў на грызьлі. У сваёй калекцыі паляўнічых трафеяў, якую зьбіраў, меў кракадзіла і гіпапатама.

У 1890 годзе разам з Матэйкам і арыстакратыяй ініцыяваў перазахаваньне парэшткаў Адама Міцкевіча ў Вавелі, хоць ягоным улюбёным паэтам быў Юлій Славацкі. У васьмідзясятых гадах напісаў чарговыя часткі трылогіі “Вагнём і мячом”, “Патоп”, “Пан Валадыёўскі”. Трылогія узьнесла пісьменьніка на вяршыню посьпеху і фурору. Разам з апісаньнямі прыроды і незвычайнага сьвету Крэсаў, ён стварыў у ёй галерэю маляўнічых постацяў – гераічных, трагічных і камічных.

Сянкевіч напісаў 11 раманаў і 13 навэлаў. Апрача трылогіі найбольш вядомыя раманы для моладзі “Крыжакі” і “У пустыні і пушчы”, а кніжка, якая прынесла Сянкевічу міжнародны посьпех і славу – “Quo vadis?”. Яна была перакладзена на 40 моваў, між іншымі на японскую і арабскую. На юбілей 25-годдзя творчасьці, які выпаў на 1897 год, ён у дар ад нацыі атрымаў невялікі палац у Абленгорку пад Кельцамі.

У 1901 годзе у сувязі з перасьледам польскіх дзяцей у Вжэсьні, пісьменьнік паслаў адкрыты ліст да прускага караля Вільгельма II.

У сьнежні 1905 года Генрык Сянкевіч за сукупную мастацкую працу атрымаў Нобелеўскую прэмію. Атрымліваючы яе, сказаў:

“… гэты гонар каштоўны для ўсіх, але ж на колькі больш каштоўным ён павінен быць для сына Польшчы! … абвясьцілі яе памерлай, але вось адзін з тысячаў доказаў, што яна жыве!... абвясьцілі, што ня здольная да думкі і працы, але вось доказ яе дзеі!...абвясьцілі, што заваяваная, але вось новы доказ, што яна умее перамагаць!...”

Пасьля выбуху вайны Сянкевіч выехаў у Швейцарыю, дзе разам з Ігнасем Падарэўскім заснаваў Швейцарскі Камітэт Дапамогі ахвярам вайны ў Польшчы, у якім выконваў функцыі старшыні.

Памёр ён 15 лістапада 1916 года ў Веве, у Швейцарыі. У 1924 годзе, ужо ў вольнай Польшчы, парэшткі пісьменьніка былі ўрачыста закладзены ў Катэдры сьв. Яна ў Варшаве.

У Польшчы існуе звыш 200 школ, патронам якіх зьяўляецца Генрык Сянкевіч.

## Музей Генрыка Сянкевіч ў Волі Акшэйскай

У флігелі старога маёнтка ў Волі Акшэйскай знаходзіцца музей Генрыка Сянкевіча. Афіцыйна яго адчынілі 2 кастрычніка 1966 года на падставе рашэньня аб заснаваньні музея, прынятым Прэзідыюмам ваяводскай народнай Рады ў Любліне. Воля Акшэйска належала сям'і Цецішоўскіх-Сянкевічаў амаль сто гадоў (1781-1870). Менавіта тут, у сядзібным флігелі, нарадзіўся будучы нобелеўскі лаўрэат Генрык Сянкевіч, і тут ён разам са сваімі бацькамі правёў бесклапотныя гады дзяцінства. Непадалёку, у Акшэі, знаходзіцца касьцёл, пабудаваны ў класічным стылі, у якім быў ахрышчаны маленькі Генрык, і які прафундавала яго прабабка Тарэса Цецішоўска зь Лелевеляў. У касьцёле знаходзіцца мемарыяльная дошка, прысьвечаная Генрыку Сянкевічу.

Недалёка адтуль знаходзіцца курган, які насыпалі каля 180-ці школьных экскурсій і шмат дарослых людзей з Польшчы і з-за мяжы, а таксама жыхары гэтай зямлі. Курган насыпалі цягам чатырох гадоў. Урачыстым адкрыцьцём кургана апекаваўся прэзыдэнт РП Ігнась Масьціцкі, а ў самой цырымоніі адкрыцьця, 2 кастрычніка 1938 года, прынялі ўдзел больш за 20 тысячаў асобаў, у тым ліку самыя бліжэйшыя сваякі пісьменьніка з дачкой Ядзьвігай і сынам Генрыкам начале. Курган мае вышыню 15 метраў, на ім знаходзіцца помнік, які ў 1980 годзе адчыніла нявестка пісьменьніка, Сусана Сянкевіч.

На цьвінтары ў Акшэі пахавана Стафанія Цецішоўска Сянкевіч, маці Генрыка. Атмасьфера ў музеі як паўтара стагоддзя таму: стаіць такі самы раяль, на якім грала і вучыла іграць дзяцей Стафанія Сянкевіч, маці Генрыка. У адной з залаў знаходзіцца камін. У шасьці выставачных залах экспануюцца розныя рэчы пісьменьніка і яго сям'і. Музей валодае унікальным кнігазборам, які зьмяшчае ўсе выданьні кніжак Сянкевіча разам з выданьнямі на чужых мовах. Апрача таго тут знаходзяцца памятныя медалі, акт хрышчэньня і акт шлюбу пісьменьніка.

У музейнай экспазіцыі пачэснае месца займаюць таксама рэквізіты з кінакадраў экранізаваных раманаў Сянкевіча "У пустыні і пушчы" і "Quo vadis?". У календары штогадовых імпрэзаў музея сярод іншага значацца навуковыя канферэнцыі, скульптурна-жывапісныя пленэры, музычныя канцэрты на раялі, зьезд школ, якія носяць імя вялікага набілянта. Яшчэ тут адбываюцца сустрэчы з акторамі, выканаўцамі кінароляў з раманаў пісьменьніка.

**"Літвоса" акшэйскія карані**

О, вялікі майстар Літвосе!
Народнага духу герой!
Якім пяром пісаць пра цябе?
Дзе браць анёльскія словы?
Калі тваё пяро як каштоўнасьць,
Можа аздобіць пантэон набілянтаў!

Твая проза ірве сэрцы палякаў
Ад дзесяці гадоў!
А інтрыгуючая "Quo vadis?"
Ва ўсім сьвеце перакладаецца,
Чытаецца, і здымаецца ў кіно.

Ты тут, у Акшэйскай Волі
Сваім прыйсьцем,
Кугаканьнем, упрыгожыў дом
Сваёй матулі, што нарадзіла.
У старым касьцёле ў Акшэі,
Дзе цяпер магіла маці
Да цябе далятали гукі
Праз немаўляці пялюшкі.

Калі падчас імшы і хросту
Сьвятар чытаў трэбнік.
Ніхто ня ведаў, што ён высьвячае
Польшчы і сьвету цябе,
Будучага вялікага пісьменьніка.

У сталым узросьце з хуткай думкай
Ты быў разважлівым мужам.
Бляск твайго слова - сакрушальная зброя

Ты марыў аб Рэспубліцы любай табе –
Айчыне вольнай і незалежнай,
Для якой ты душу сваю аддаваў
Дзейна, працавіта і бяз стомы.

Твае раманы зь першых радкоў
Промнямі прыгожай фабулы радавалі,
Героямі высакароднымі, годнымі
Для народнай хвалы!

Тваё творчае слова ў тыя часы -
Быццам смачнага торту кавалак
На дэсэрт.
Калі нарастаў прыгнёт акупантаў,
Яно было – як бальзам.

Хто ж нас ня ведае
Мядзьведзя ля бука – перамога!
Альбо Валадыёўскага з трылогіі –
Галантнасьць, высакароднасьць і мужнасьць!

Цяпер, калі Айчына вольная
Хай твой бляск надалей
Радуе ўсіх людзей!
Умацоўвае польскія сэрцы,
Будзіць абаяльнасьць і пышнасьць!

Ты, *Літаратар* – найзначны,
І залаты вянок Нобеля – нададзены Табе,
Хай заўжды, ва ўсе часы
Свабоднай польскай зямлі
Надае згоду, спакой і красу!



# IV
# Стафан Жаромскі

## Эскіз біяграфіі

Стафан Жаромскі, празаік, публіцыст, драматург, а таксама патрыёт, грамадскі дзеяч, мараліст нарадзіўся 14 кастрычніка 1864 года ў Страўчыне каля Кельцаў. Карыстаўся псеўданімамі: Маўрыцы Зых, Юзаф Катэрля і Стафан Ікспмораж. Паходзіў са шляхецкага роду гербу Еліта. Яго бацька, Вінцэнт Жаромскі, за дапамогу паўстанцам студзеньскага паўстаньня быў рэпрэсаваны расейцамі і ў выніку страціў маёнтак.

Малады Стафан у 1874 годзе пачаў вучыцца ў Кельцкай гарадской гімназіі, якую па прычыне праблемаў з матэматыкай скончыў без

атэстата сталасьці. Потым пачаў адукацыю ў Інстытуце Ветэрынарыі ў Варшаве, дзе не патрабавалі атэстат. З-за фінансавых прычынаў перарваў адукацыю і пачаў працаваць гувернёрам ў памешчыцкіх сем'ях, між іншымі у Наленчаве, дзе заняўся таксама культурніцкай і асьветніцкай дзейнасьцю. Дэбютаваў як навеліст на старонках "Тыгодніка повшэхнэго" у 1889 годзе. У той жа час ажаніўся з Актавіяй Радзевіч з Радзівілаў, зь якой пазнаёміўся ў Наленчаве. Пасьля выехаў у Швейцарыю, дзе працаваў бібліятэкарам у Нацыянальным польскім музеі. Там узьнікла "Сізіфава праца".

Вярнуўшыся назад працаваў у Ардынацкай бібліятэцы Замойскіх у Варшаве. Напісаў чарговыя раманы "Бяздомныя людзі", "Попел". У сваіх творах ён падымаў праблемы вёскі, беднасьць і пакуты польскіх сялянаў.

З 1905 года удзельнічаў у працы дэмакратычных і сацыялістычных арганізацый. Быў ініцыятарам заснаваньня народнага Універсітэта, арганізаваў курсы давучваньня для вучняў рамеснай школы.

Цягам трох гадоў жыў у Парыжы, знаходзіўся таксама ў Цюрыху, Вене і Празе. Зьдзейсьніў доўгае падарожжа па Італіі. З пачаткам І Сусьветнай вайны выказаў гатоўнасьць служыць у польскіх легіёнах. Пасьля вайны, у вольнай Польшчы, пасяліўся ў Варшаве. Быў сузаснавальнікам польскага прафсаюза літаратараў, і яго першым старшынём. Заснаваў таксама аддзел Пэн-клуба.

Да самых важных твораў пісьменьніка належыць залічыць "Попел", "Сізіфава праца", "Прадвесьне", "Гісторыя граху", "Верная рака", "Здаравячка", "Вецер з мора" – за гэтыя кнігі аўтар атрымаў дзяржаўную літаратурную прэмію. За сваю грамадскую і літаратурную дзейнасьць быў уганараваны вялікай стужкай ордэна Адраджэньня Польшчы.

У пранізьлівым творы "Паганец" пісаў пра "сьветла-блакінты Буг", ствараючы вельмі гіпнатычны вобраз прыбужанскай прыроды, гутарыў з загадкавым пастухом пра забойства, учыненае "Маскалямі ў Пратуліне". Сьвет яго твораў зьмяшчае вялікай сілы плынь пратэсту супраць крыўды, беднасьці і пакутаў. А шмат яго герояў, якія зьяўляюцца грамадскімі фігурамі, разглядае сваю прафесійную працу як абавязак перад самымі беднымі, гэта пісьменьнік асабліва яскрава ўвідавочніў у такіх творах, як "Пацалунак", "Лёс", "Паганец", "Да свайго Бога", "Магіла", "Разьдзяўбе нас вараньнё..." закранаюць самыя надзённыя для народа справы – нацыянальныя і незалежніцкія праблемы.

У Закапанэ ён з Каспровічам заснаваў тайную незалежніцкую арганізацыю, мэтай якой было аб'яднаньне ўсіх разьдзеленых

польскіх земляў. У час бальшавіцка-польскай вайны змагаўся на фронце, адкуль прывёз антыбальшавіцкі рэпартаж пад назовам “На парафіі ў Вышкаве”, у якім лічыў савецкіх камісараў польскага паходжаньня здраднікамі, а Чырвоную Армію называў “дзікай салдатнёй”.

Шмат якія творы Жаромскага сталі натхняльнымі для рэжысёраў, якія па матывах раманаў гэтага выбітнага празаіка зьнялі вядомыя і папулярныя фільмы, у тым ліку “Попел”, экранізаваны Анджэем Вайдам.

Стафан Жаромскі памёр 20 лістапада 1925 года і быў пахаваны на эвангеліцка-рэфармаваным цьвінтары ў Варшаве. Яго пахаваньнеператварылася ў вялікую народную маніфестацыю.

## Музей Стафана Жаромскага ў Наленчаве

Біяграфічна-літаратурны музей Стафана Жаромскага ў Наленчаве быў адчынены 17 чэрвеня 1928 года. Разьмяшчаецца ён у хаце закапанскага стылю, пабудаванай у 1905 годзе паводле праекту вядомага і паважанага на польскіх землях праектанта Яна Кошыц-Віткевіча, пляменьніка Станіслава Віткевіча, які знаходзячыся ў Наленчаве пазнаёміўся з падчаркай пісьменьніка, дачкой Актавіі Жаромскай, Генрыкай, і ажаніўся зь ёю. Хата на высокім каменным падмурку, аднапакаёвая, з ганкам на падпорах і гонтавым дахам. Тут, у прыгожай курортнай мясцовасьці, у краі лёсавых яроў, працаваў над сваімі творамі Стафан Жаромскі.

Пасьля сьмерці пісьменьніка яго ўдава передала гэты арыгінальны гуральскі дамок для музея, у якім і па сёньня знаходзяцца фатэль і пісьмовы стол, на якім тварыў пісьменьнік. Ёсьць тут столік для гульні ў шахматы, размалёваны кветкамі работы Станіслава Віткевіча. На экспазіцыі ёсьць калекцыя партрэтаў і карцін, напісаных выбітнымі польскімі мастакамі канца XIX, пачатку XX вякоў, у тым ліку Лявона Вычулкоўскага, Тымона Несялоўскага, Элігіюша Невядомскага. Ёсьць тут таксама сямейныя рэліквіі і малюнкі яго сына Адама.

Музей валодае больш чым дзясяткам першых выданьняў пісьменьніка. Знаходзяцца ў экспазіцыі дзьве карціны алеем, напісаныя Жаромскім – "Від з вакна хаты", а таксама выява раненага паўстанца, ілюстрацыя да рамана "Разьдзяўбе нас вараньнё…"

Абсталяваньне музея аўтэнтычнае, як у часы, калі тут працаваў і адпачываў Жаромскі. За хатай, у ніжняй частцы парку знаходзіцца маўзалей Адама Жаромскага, сына Актавіі і Стафана, які памёр ад сухотаў 30 ліпеня 1918 года, ва ўзросьце 18 гадоў. Гэта сьпічастая пабудова з вапняку.

У гэтым месцы я згадаю дачку пісьменьніка, Моніку, якая памерла ў 2001 годзе ў Варшаве ва ўзросьце 88 гадоў. Яна была артысткай, мастачкай, пісьменьніцай і захавальніцай памяці свайго бацькі, Стафана Жаромскага.

Музей арганізуе адпаведныя акалічнасьцям выставы, канферэнцыі, сустрэчы, конкурсы. Таксама музейная установа безупынна дакументуе літаратурную і грамадскую дзейнасьць пісьменьніка.

**Наленчаўская кузьня**

Яго называюць сумленьнем
Польскай літаратуры,
З-пад Кельцаў яго карані.

Ён верыў глыбока
Ў ідэалы справядлівасьці
І ў творах цярпліва
Падточваў скалы подласьці!

Хатні настаўнік, бібліятэкар,
З каганцом асьветы
Ішоў да моладзі.
Цяпер ягным імем
Аздоблены тэатры і школы.

Тут, у хацінцы зь бярвёнаў,
Пан Стафан з жонкай і сям’ёю
Жылі ўлетку.
Штодзённа ён з захапленьнем
Нялёгкае жыцьцё і прыроду
Апісваў
Так лірычна і шчодра.
Нібыта ў кузьні.
Пад наленчаўскім небам.
Патрыёт і раманіст.
Шматлікія свае творы
Каваў, ствараў, пісаў!

Жаўнер легіёну,
Змагар зь пяром,
Біў па злу пярунамі.
Айчыну і справядлівасьць
Ставіў па-над усім.

Пісаў, вандраваў, кахаў
За справы, важныя людзям
Біўся безкампрамісна
З усяе сілы, заўжды
За Польшчу-Айчыну
Гатовы да цяжкой працы
І да ахвяры сабою
Цалкам, да болю, горача!
Заўсёды!

Дбайна займаецца
Мартыралогіяй уніятаў
Зьнішчаных расейскімі салдатамі
Сьхіляецца над кожнай
Чалавечай нядоляй і крыўдай
Як над нацыянальнай ранай.

Запал свой творчы, разумовы
Быццам цеста ў дзяжы
Нястомна ўвесь час перамешвае.
Арганізуе пісьменьніцкі Саюз,
У якім выконвае функцыі
Першага старшыні!

Сёньня шмат цудоўных вобразаў
Зь ягоных раманаў
Кінематаграфісты перанесьлі на экран.

За мастацкасьць прозы, за даста);
Ён сярод літаратараў
Красуе, нібыта кветка!

Цяпер славаю вядомага
Курортнага мястэчка
Зьяўляецца музей Жаромскага!

А моц і глыбіні яго душы
Не пакрые паціна часу!
Пазнаёмся з гісторыяй пісьменьніка!
Прыедзь у Наленчаў!
Адчуй смак і глыбіню яго слова!

# V
# Дом, сям’я – малая Радзіма ў жыцьці і творчасьці пісьменьнікаў

Нормы паводзінаў, сувязі, звычаі, якія мы выносілі з дому і ад суседзяў, перадача ведаў, гістарычныя гутаркі, і тая выключная, асаблівая ў кожнай мясцовасьці і сям’і фамільярнасьць і канфідэнцыйнасьць, ствараюць у кожнага з нас, а таксама і ў нашых героях сацыяльныя і нацыянальныя пачуцьці – як незьнішчальныя і непаўторныя вартасьці, атрыбуты. Таму дазволю сабе распачаць гэты разьдзел пра Высакародных Сыноў Айчыны вершам:

Моцай гербаў і кораняў роду,
Праз накірунак дзеяў
Сям’і і музы
Натхнёныя ідэяй гуманізму!
Як арлы высока-высока! Вышэй за
Пяруны і маланкі. Прозаю
Ставілі гаці ўсялякай карыкатуры,
І гратэскавай, нядобрай, чалавечай прыродзе.

Магутнасьцю слова
Прасьвятлялі цёмныя галовы!
Паказвалі кірунак спакою,
Справядлівасьці, высакароднасьці і культуры!

Праз нанесеныя раны,
І боль з-за пакутаў Айчыны
І польскай сьвядомасьці,
Іх стварала польскае слова!
Хоць на дарогах жыцьця
Атрымоўвалі шмат udараў,
Гэтыя думкі і мары
Узносілі іх высока,
Да нябёсаў натхненьня!

Кожны зь іх паказаў,
Што ў вобразах са словаў
Як у неапрацаваным дрэве
Драмае суровая краса.

Яшчэ мастацкае слова
Узбройвае эмоцыяй, уражаньнем!
Калі захапленьне, эйфарыя, надзея
Горача расьцякаецца недзе ля сэрца…

Менавіта дзякуючы слову, дзякуючы вынесеным з сямейнага дому звычкам і мове, дзякуючы традыцыям, зь якімі пазнаёміліся ў сваіх малых Радзімах, тыя разумнікі, адораныя талентам творцы, найлепшым чынам, праніклівa, з патрыятызмам выканалі місію узбуджэньня нацыянальнага духу. Крашэўскі, жывучы на чужыне, у Дрэздэне, у адным зь лістоў закрануў польскую тэму, і напісаў:

"…да працы ёсьць і заўсёды будзе шмат: сам, сям'я, гміна… трэба зьбіраць сілы, веру, дбайна захоўваць мову і нацыянальны дух."

У шматграннай, багатай творчасьці ўсіх трох пісьменьнікаў, у іх біяграфіях мы знойдзем асаблівыя адносіны да сям'і, яе стану і каранёў.

Сям'я ў кожнай культуры – гэта ў нейкай ступені сьвятыня і вечная каштоўнасьць, а тады, калі польскі народ ня меў сваёй Айчыны, сям'я была апораю польскасьці. Адсюль больш глыбокі сэнс ў паасобных кніжках пісьменьнікаў набывае дзеяньне, зьмешчанае ў сямейным коле з разнастайнымі досьведамі і дылемамі.

Крашэўскі, гэтак жа, як і Сянкевіч з Жаромскім мае шляхецкае, памешчыцкае паходжаньне, якое характарызуецца прывязанасьцю да зямлі і любоўю да сельскай атмасьферы. А яшчэ была ў іх наша традыцыйная славянская польская душа, зь якой бруілася спагада да іншых, шчырая гасьціннасьць, рамантычнасьць і сьхільнасьць да радасьці.

Стаіўшы дыханьне прачытаў я 370 лістоў да сям'і, якія Крашэўскі напісаў з 1820 па 1863 гады. У адным зь іх аўтар піша пра баль, зладжаны з выпадку знаходжаньня цэсара Аўстрыі Францішка Юзафа I ў Кіеве, на якім пісьменьнік меў гонар удзельнічаць. Багатая карэспандэнцыя паказвае Крашэўскага як сардэчную асобу, вельмі сямейную, які зьвяртаецца да самых блізкіх людзей – прабабулі, бабулі, маці, бацькі, братоў зь вялікім шанаваньнем, любоўю і пакорай. У шматлікіх лістах да брата Каетана апрача пэўных маёмасных нюансаў выражае сваю братэрскую прывязанасьць і любоў. Тут варта дадаць, што Каетан – гэта таксама чалавек з align рознабаковымі

захапленьнямі. Быў мастаком, скульптарам, літаратарам, музыкантам і астраномам, які стварыў у Раманаве сучасную па тых часах астранамічную абсерваторыю. Крашэўскі так моцна быў прывязаны да ўспамінаў пра Раманаў, што асаблівую радасьць яму зрабіла пасылка з запасам гусіных пёраў, якія ён сам прыстасоўваў для пісаньня – для яго тыя пёры былі вельмі блізкімі, каштоўнымі, бо раманаўскімі. Вялікай драмай было для Крашэўскага ссылка ў 1863 годзе ў Сібір брата Люцыяна, і зяця. Дачка Ю.І.Крашэўскага паехала за мужам, ў Іркуцку пякла і прадавала хлеб – падтрымлівала сям'ю. Вяртаючыся зь дзецьмі ў Польшчу пасьля сьмерці мужа, памерла ў дарозе.

Пісьменьнік, як муж, зь цеплынёй і павагай пісаў пра сваю жонку Сафію, з бацькоўскай заклапочанасьцю і любоўю ставіўся да сваіх чатырох дзяцей.

Зь лістоў можна зрабіць выснову, што ён усё сваё жыцьцё рабіў захады для павелічэньня маёмаснага стану і гарантаванага дабрабыту дзяцей. Нягледзячы, што справы яго ішлі па-рознаму, ён на жаль не дабіўся посьпехаў, асабліва ў кіраваньні памешчыцкімі маёнткамі, набытымі ў Крэсах.

У большасьці лістоў на розных этапах жыцьця і з розных месцаў Крашэўскі згадвае Раманаў. Вось некалькі цытатаў з выбраных лістоў:

*Доўгае, 4.VII.1844*

*Да бабулі ГАННЫ МАЛЬСКАЙ*

*Я так блізка ад Раманава, і так недалёка да дня сьв. Ганны, таму нам зараз удвая сумна, што нашыя з Зосяй зычэньні мы вымушаны давяраць гэтаму халоднаму лісту. І яна і я былі бы насамрэч шчасьлівымі, калі б маглі знаходзіцца ў Раманаве, але гэтым разам аб гэтым нават думаць нельга, бо гэта толькі яшчэ большае шкадаваньне выклікае…*

Ліст заканчваецца словамі:

*Цалую ручкі бабулечцы дабрадзейцы і заўжды аддаюся яе ласкаваму да нас сэрцу і памяці, удзячны і любячы ўнук Юзаф.*

У іншым, ранейшым лісьце (Амельна, 22.II.1839) да бабулі Ганны Мальскай піша так:

*…Зося вельмі і вельмі часта ўспамінае Раманаў, яшчэ ўчора казала, што да Раманава, да бабуль, пайшла бы пехатою.*
*Чаму гэта так цяжка з пашпартам?*

У чарговым лісьце таго ж перыяду (Амельна, 6.IV.1839) паведамляе сваёй маці пра нараджэньне дачкі:

*Любая мама! Дзякуй Богу, мая Зося ў мінулую суботу, у адсутнасьці мяне, шчасьліва нарадзіла дачку…Назвалі яе Канстанцыяй, у памяць старэйшай бабулі. Сафія гэтак жа хацела…*
*Я так узбуджаны, што не магу пісаць. Прашу маіх дабрадзеяў, тату і маму любіць гэтую ўнучку і зь ёю нас абоіх… разьвітваюся да наступнага ліста і цалую ручкі таты і мамы. Адданы сын Юзаф.*

І чарговы ўрывак зь ліста:

*Хубін, 25.X.1850*

*Да бацькі ЯНА КРАШЭЎСКАГА*

*Ня ўмею выславіцца, як мяне ўзрадавалі прыезд братоў і Габрыэля, а таксама ажывеньне мне на хвіліну зьвестак пра Раманаў. Калі сам не магу там быць, то хоць паслухаць пра сваіх. Таму ўладаю старшага брата, зусім не зважаючы, што моцна вырываліся, затрымаў іх на некалькі дзён даўжэй, за што, спадзяюся, тата будзе злаваць.*
*Мусіць шмат часу сплыве, перш чым каго са сваіх пабачу, а Бог бачыць, што гэта для мяне вялікая радасьць…*
*Зося, я і дзеці – усе давяраемся памяці і сэрцу каханага таты і ручкі ягоныя цалуем.*
*Адданы сын Юзаф.*

У другім лісьце да бацькі (Хубін, 15.IV.1853) піша:

*Любімы тата дабрадзей!*
*Сёньня атрымаў лісты з Раманава і зараз адпісваю, хачу адразу запэўніць, што на заклік таты пасьпяшаюся наколькі мажліва. Ужо на пашпарт падаў, прыкладваю намаганьні, цяжкасьці як звычайна ёсьць, але як толькі яго атрымаю, адразу прыеду.*
*…што будзе, тое будзе, а ў Раманаў прыехаць павінны і прыедзем.*
*Заўжды найадданейшы сын Юзаф.*

У 1856 годзе пісьменьнік з жонкай прыбыў у Раманаў. З гэтай нагоды адбыўся сямейны зьезд. Апрача іншага, у лістах перад прыездам мы чытаем:

*…каля 26, 27 красавіка…буду ў Хэлме ці Уладаве.*

*Ці ня мог бы бацька прыслаць мне коней, хоць бы чатырох нанятых для мяне, бо ў Хэлме і Уладаве, як я ведаю з досьведу, іх вельмі цяжка дастаць… Я ня вельмі здаровы, вазьму крыты экіпаж…*

***

Месца нараджэньня – Воля Акшэйска, навакольныя населеныя пункты і лукаўскі павет былі Сянкевічу вельмі блізкімі. І зьяўляліся крыніцай захапленьня і натхненьня пісьменьніка. Шмат вобразаў у яго творах – гэта тыя, якія зьбярог у сабе з радзімай старонкі. Ён быў асобаю пачуцьцёвай і адданай сямейным справам. У перыядзе, калі ўжо стаў незалежным фінансава, увесь час матэрыяльна падтрымліваў блізкіх і больш далёкіх сваякоў. Аб адданасьці, шчырай сімпатыі да сям’і і сардэчных стасунках Генрыка Сянкевіча з блізкімі сьведчыць хоць бы яго істотная фінансавая дапамога сёстрам. Адной спраўляе вясельле, а другой, манашцы Гэлене – фінансуе манаскі пасаг. У сваім тастаманце запісвае пэўныя сумы для сваіх пляменьнікаў і пляменьніц – дзяцей сястры.

Пісьменьнік ажаніўся са сваім вялікім каханьнем, Марыяй Шаткевіч. Бязьлітасны лёс – праблемы са здароўем жонкі – перарвалі і разбурылі іх сужонскую радасьць і наступныя сумесныя сямейныя мары. Цярпліва і дбайна ён даглядаў яе падчас доўгай хваробы, але нажаль яна памерла ад сухотаў.

Сянкевіч быў таксама добрым, клапатлівым бацькам, закаханым у сваіх сына, Генрыка Юзафа, і дачку, Ядзьвігу Марыю. Калі зьяжджаў, шмат разоў браў з сабою ў падарожжа – каб не расставацца і мець магчымасьць быць зь імі даўжэй.

Дадам некалькі яго афарызмаў пра каханьне і прыязь:

Кахаць – гэта ўжо добра,
але яшчэ лепей быць каханым.

*

Прыязь – гэта як сухацьвет:
кветкі бледныя, але ніколі ня вянуць.

*
Каханьне – туман, які ўтвараецца ў галаве.
Калі той туман ападае долу – на сэрца – наступае
душэўны спакой жыцьця; калі застаецца ў галаве – ліецца дождж сьлёз.

*
Каханьне як лясное насеньне,
хутка ляціць зь ветрам,
але калі вырасьце ў сэрцы дрэвам,
то толькі разам з сэрцам
можна яго вырваць.

*
Што выкасіць сьмерць, пасее каханьне, і гэта – жыцьцё.

Увесь перыяд свайго творчага жыцьця літаратар падтрымліваў жывыя,цёплыя кантакты з мясцовымі ўладамі лукаўскага павету, цікавячыся справамі і людзьмі зь яго радзімых і нязьменна блізкіх яму ваколіцаў.

Падчас юбілейнай прамовы ў 1897 годзе сказаў:

“Я здабыў каханьне сярод сваіх, вядомасьць сярод чужых, і нават адносны дастатак – бракавала мне аднаго – зямлі нашай, той зямлі, зь якой мы ўсе вырасьлі, якая ёсьць і будзе непарушнай асновай жыцьця і несьмяротнай барацьбы пакаленьняў.

***

Жаромскі быў сынам і гарачым прыхільнікам келецкай зямлі. Дзіцячыя гады правёў у Страўчыне і Цякотах, вучыўся ў гімназіі ў Кельцах. Адносна рана страціў бацькоў: яго маці памерла, калі меў 15 гадоў, а чатырма гадамі пазьней пахаваў і бацьку, адтуль зь яшчэ большай глыбінёй у сваёй творчасьці паказвае матывы мацярынскай любові. У рамане “Піхтавая пушча” пісьменьнік шчыра, з настальгіяй, піша:

“У вушах маіх дагэтуль стаіць шум твой, лес дзяцінства і маладосьці, хоць колькі ўжо гадоў не дадзена мне чуць яго наяве! У марах я пераношуся У марах я перабягаю ўзьнёслыя горы – Лысіцу, Лысец… яшчэ бачыў дзіцячымі вачыма вялікіх жывых ракаў… як рушыць па сьветлым гліністым струмені, што разганяецца з той радзімай гары…

Я бачу ўжо маю мяжу і маю мэту: родны дом; я з разгону спускаюся ўніз. Вось ужо ля мяжы палеткаў. Бачу дзьверы, перакроч-

ваю парог… . Пасьля працы я валюся, каб спакойна і радасна адпачыць.”

У гэтым месцы я дазволю сабе асабісты ўспамін. Памятаю, як шматразова вандруючы пехатою па Сьвентакжыскіх гарах, кожны з нас хацеў асабіста ўвайсьці ў маленькую прыдарожную каплічку ў Піхтавай пушчы, каб прачытаць надпіс Стафана Жаромскага, які знаходзіцца там і па сёньня. Пісьменьнік перанёс у свае творы шмат вобразаў з радзімай старонкі маладых і дзіцячых гадоў. Пра двор у Цякотах, дзе бацькі Жаромскага былі арандатарамі, пісаў з сумам:

“Я вяртаўся на закаце сонца, з майго белага будынка слупам падымаўся дым, сьвяціліся белыя сьцены… Трэба разумець тую гутарку старога дома, калі дома няма, і трэба прабачыць сабе тыя горкія сьлёзы, і тую прорву тугі па тым, што ўжо ніколі, ніколі ня вернецца.”

Калі пасьля сьмерці пісьменьніка адшукаліся яго шматтомныя “Дзёньнікі”, напісаныя ў 1882-1891 гадах, крытыкі адкрылі, што Жаромскі педантычна занатоўваў розныя асаблівасьці жыцьця ў родным доме, паўстанцкія гісторыі, апісваў навакольныя мясьціны, краявіды, якія падштурхоўвалі да творчай працы. Зь іх ён чэрпаў шмат сюжэтаў, постацяў, каторых потым прыстасаваў для сваіх раманаў.

Пісьменьнік быў рэгіянальным дзеячам, які ня толькі апісваў улюбёны край, але і вёў на карысьць рэгіёну, у якім знаходзіўся, асьветніцка-культурную дзейнасьць, асабліва блізкай была яму ідэя стварэньня даступнай для мясцовай беднаты асьветы.

Менавіта ў “Дзёньніках” ён запісаў тыя, вельмі арыгінальныя, словы:

“Айчына – гэта ня толькі краіна, людзі і мінуўшчына, што ляжаць у магілах, завалах, мёртвым мастацтве, але і будучы грамадскі парадак, будучы вобраз…

Нагадаю, што гэты парадак, вобраз, у сваім атачэньні, у сваёй малой Айчыне гэтак ахвярна, гэтак адважна намагаўся зьмяняць адзін з герояў рамана Жаромскага – доктар Юдым.

***

Зьмешчаныя ў гэтай кніжцы сьціслыя зьвесткі дазваляюць зрабіць наступныя высновы: нават павярхоўнае вывучэньне творчасьці і біяграфій пісьменьнікаў, што ўтвараюць Парнас* польскай прозы, паказвае іх месца ў вырошчваньні польскасьці, працавітасьць

* Парнас – горны ланцуг у сярэдняй Грэцыі, на якім паводле грэцкай міфалогіі знаходзіцца адна зь сядзібаў дзевяці музаў.

на карысьць свайго народу, любоў да сваіх сем'яў і прывязанасьць да каранёў. Яны заўсёды памяталі пра свае радзімыя старонкі. У творчасьці кожнага зь іх мы знойдзем розныя і часта тужлівыя звароты да ўлюбёных малых Радзім. Новым адукацыйным і культурным крэда сучасных пакаленьняў лягчэй надаць непарыўнасьць і больш глыбокі айчынны сэнс зьвяртаючыся да постацяў і ўчынкаў нашых майстроў.

Гэтыя пісьменьнікі, якія як і я, босымі, бесклапотна бегалі ў дзяцінстве, мне вельмі блізкія. Яны сталі маімі героямі, узорам нязломнасьці і ахвярнасьці дзеля агульнага дабра. Цудоўныя моманты зь дзяцінства, з маладосьці – гэта самыя глыбокія і трывалыя пласты чалавечай уражлівасьці. У творцаў з разбуджанай фантазіяй, такіх, як Крашэўскі, Сянкевіч, Жаромскі, пачуцьці тыя шматкроць павялічаныя.

Так, гэтыя вялікія каханьні
Да **малых Радзім**
Як крыніцы – утвараюць рэкі,
Што палымнеюць **вечным, польскім**
**Бела-чырвоным сьвітанкам!**

Працуючы над гэтай кніжкай, я ўсьвядоміў, што знаёмства зь біяграфіямі і творчасьцю пісьменьнікаў – гэта сапраўдны, урадлівы Айчынны Унівэрсітэт. Іх учынкі гавораць самі за сябе (*Acta probant se ipsa*[*])

Цяпер, у эпоху свабоды, адчыненых межаў, міграцыі, узаемапранікненьня культур і масавага спажываньня (!), а таксама ў эпоху глабалізацыі і аб'яднаньня Эўропы, вельмі важна не забываць пра каштоўнасьці нашай культуры і сімвалічныя для яе месцы.

Ніколі! Ніколі-ніколі, ніякая “закупалогія”
Ня будзе мець
Гэткага агню, як літаратура!
Бо прыгажосьць, сьцьвярджэньне існаваньня,
Памкненьні і ідэалы,
Пасяліліся ў культуры.
Любаваньне Захадам
Па гандлёвых пасажах – гэта

* Acta probant se ipsa(лац.) – Учынкі кажуць самі за сябе.

Авечае шэсьце пераймальнікаў.
Толькі пустая, мімалётная матэрыя.
Але больш за камерцыю ў глыбіні
Сучаснай душы заўсёды:
**Дом, сям'я –**
**Нашыя карані:**
**Нацыянальная сьвятыня!**

У маёй ацэнцы няма дылемы "мець, альбо быць", бо "быць" – гэта і "мець" пачуцьцё ўласнай, **нашай польскай ідэнтычнасьці**.

Незалежна ад зьменаў, што здараюцца ў густах і інтэлектуальным ўзроўні чытачоў, у новых маркетынгавых тэндэнцыях, накірунках у выдаўніцтве і пісьменьніцтве – уклад Крашэўскага, Сянкевіча і Жаромскага ў стварэньне польскага дома з польскім словам, польскай думкай, польскай сьвядомасьцю, зьяўляецца бясспрэчным. Увесь час трэба не забывацца падкрэсьліваць, што гэта яны рабілі ў той час, калі польская нацыя ня мела ўласнай дзяржавы, і пакаленьні, якія марылі пра незалежнасьць, сьпявалі ў цудоўнай рэлігійна-патрыятычнай песьні, напісанай паэтам і драматургам Алаізам Фялінскім "Божа, што Польшчу", глыбока пераканаўчыя, экспрэсіўныя і хвалюючыя словы:

Перад Тваім алтаром узносім малітву:
Вольную Айчыну дабраславі, Госпадзе.

Дадам, што аўтар песьні, народжаны на Валыні, у Луцку, быў ад'ютантам Тадэвуша Касьцюшкі, а раней – дырэктарам ліцэя ў Крамянцы, дзе дарэчы нарадзіўся наш вялікі паэт Юлій Славацкі. Песьня, напісаная ў 1816 годзе, была ў 1862 годзе, у час расейскай акупацыі, забаронена. Ужо тады, і таксама пазьней, у часы гітлераўскай акупацыі, і ў ПНР-ы, прыпеў сьпявалі ў версіі:

Вольную Айчыну вярні нам, Госпадзе.

Вышэйзгаданыя факты апісвае вядомы хэлмскі гісторык Зьбігнеў Любачэўскі ў адным з разьдзелаў кніжкі "У ценю трох дубоў". Гэта гісторыі зь мінулага, калі царскі ўраднік – губернатар Вольжын, жорсткі старарускі вяльможа ў Хэлмскай губерніі (у межах якой знаходзіліся апрача іншых Бяла Падляска, Уладава, Замосьць, Грубешоў, Білгарай) выдаў інструкцыю па прыцягненьні да адказнасьці асобаў, якія сьпяваюць патрыятычныя песьні на польскай мове.

Трэба падкрэсьліць, што нашы пісьменьнікі ніколі не падвяргалі сумненьню польскую высакародную і адважную мараль, што выражалася ў глыбокай вернасьці роду, любові да Айчыны і ахвярнасьці ёй. Так што калі акупанты наўмысна ўжывалі стары рымскі прынцып “кія і моркаўкі” – падвяргалі патрыётаў пакутам і ўзнагароджвалі калабарантаў, польскія патрыёты былі непахіснымі.

Для закаханых у Польшчу
Віртуозаў пяра
Сьвятыя сімвалы –
Арол у кароне
І бела-чырвань!

Значылі болей,
Чым вартасьць
На дыску манеты,
Або гравюра і бляск
Старажытнага бранзалета.

Польскага нацыянальнага
Сьвятла і полымя душы
Як калясьніцы Геліоса**
Не адолеў ніводзін тыран!

Магутнасьцю сімвалы нацыі,
Іх спрадвечныя промні
Мацавалі збалелыя сэрцы
У час прыніжэньняў і турмаў.

Нацыянальная культура – гэта не кан’юнктура, і гэта нешта нашмат большае, чым мода, рэклама, або камерцыя. Гэта адзіны ў сваім родзе, асаблівы і эстэтычны **Айчынны Універсітэт**. Таму думаю – за тое, што пакінулі наступным пакаленьням нашы лепшыя палякі, пісьменьнікі, нацыянальныя гуманісты Юзаф Ігнась Крашэўскі, Генрык Сянкевіч, Стафан Жаромскі, мы, сучасныя жыхары вольнай Польшчы, абавязаны ім удзячнасьцю і памяцьцю, карыснай і прыгожай формай якіх зьяўляецца наведваньне музеяў, прысьвечаных іх жыцьцю і іхным літаратурным здабыткам.

Бо пад неба Раманава, Волі Акшэйскай і Наленчава узносіцца пыл вякоў і колішніх падзеяў, пульсуе рэха славутых, высакародных,

* Геліос – бог сонца, паводле антычнай веры, штодзённа раніцою вынырвае з акіяну, рухаецца па небе на залатой калясьніцы, запрэжанай чатырма агністымі аргамакамі.

сьветлых польскіх сэрцаў, зь якіх трэба браць прыклад. І такім чынам для заахвочваньня, насычэньня нашай польскай сьвядомасьці, для павелічэньня унутранай інтэлектуальнай пачуцьцёвасьці, каштоўнасьці, разважлівасьці і сузіральнасьці – насамрэч варта і трэба там быць!

# Эпілог

Калі я прыступаў да напісаньня гэтай кніжкі, грукаліся ў ва мне такія пытаньні: Як зьмясьціць у малым аб'ёме інфармацыі пра трох высакародных, незвычайных палякаў, пісьменьнікаў-патрыётаў, над творчасьцю якіх гадамі працуюць выбітныя навукоўцы – дасьледчыкі, гісторыкі літаратуры, якія запісваюць у шматлікіх тамах літаратурнай крытыкі разгалінаваную, вычарпальную інфармацыю і інтэрпрэтацыю? Дзе шукаць гукі такіх словаў, зваротаў, якія б трапна, пераканаўча пракаментавалі вялікія здабыткі нашых трох вешчуноў-празаікаў, напісанае слова каторых зьяўляецца настолькі зьмястоўнай, вытанчанай зброяй? Як праілюстраваць мой асабісты эмацыйны стан, што выражае павагу да іх біяграфій і патрыятычных пазіцыяў, захапленьне мастацкай шматколернасьцю ў літаратурных зьдзяйсьненьнях творцаў? У якой форме я, як бібліяман, што валодае і чытае творы нашых майстроў, магу выразіць сваю ўдзячнасьць і падзякі за годнасьць і адвагу, узорную настойлівасьць, за іх высакародна працавітае, творчае жыцьцё?

Я выбраў троху прозы і фатаграфій, а перадаваць асабісты эмацыянальны стан даручыў паэзіі, якая найбольш поўна выражае тое, што я адчуваю. З гэтай прычыны я разьмясьціў у тэксьце некалькі адзінкавых строф і адзінаццаць вершаў. Сярод вершаў знойдуцца тканыя спантанна і проста, у іншых гучыць какафонія, або натуральныя, міжвольныя асацыяцыі – як у жыцьці. Гэтак жа і жыцьцё нашых майстроў, пісьменьнікаў, якое патыхала ня толькі гармоніяй і высокімі "матэрыямі", а штодзённа было проста перапоўнена разнастайнымі сітуацыямі і звычайнымі непрадбачанымі чалавечымі вывертамі. Іх біяграфіі разам з творчасьцю разьмяшчаліся ў калаўроце людскіх праблемаў, дылем, сацыяльнай, палітычнай, і чалавечай амаральнасьці, бесьперапыннай барацьбы кепскага з добрым, у якой яны ўвесь час станавіліся на бок слабейшых, і былі прыхільнікамі справядлівасьці і дабра. Усё гэта гаворыць мацней, чым я, дзякуючы чаму Крашэўскі,

Сянкевіч і Жаромскі зьяўляюцца для мяне больш праўдзівымі, зразумелымі, і па-мужчынску дакладнымі.

Бо бывае ж мярзота і ліха
Нават у золаце, што капае!
Таму ёсьць і зьзяньне, і прыгажосьць,
Сэнс у сумленьні і прастаце.

Галоўная канцэпцыя гэтага невялікага нарысу, зьмешчанага ў кніжачцы – выражэньне майго паклону, прызнаньня і павагі пісьменьнікам, паказ неабходнасьці існаваньня ў "санктуарыях", зьвязаных з нашай класічнай літаратурай, а таксама папулярызацыя музеяў і адначасна Любельшчыны – з вобразным паказам яе духоўнай жыцьцяздольнасьці і сілы на мапе польскай культуры. Калі пісаў кніжку, я хацеў паказаць, што **Любельская літаратурная траса**, злучае мясьціны, зь якімі зьвязаны вялікія польскія пісьменьнікі: Юзаф Ігнась Крашэўскі, Генрык Сянкевіч і Стафан Жаромскі. Разам зь гістарычна-літаратурным багацьцем Любліна гэта важная частка спадчыны, каштоўнасьцяў, якія знаходзяцца на Любельшчыне, вельмі важная, і ня толькі для жыхароў любельскага рэгіёну.

У эстафеце пакаленьняў патрэбен нястомны клопат аб польскім духоўным хлебе, якім так шчодра надарылі нас цудоўныя літаратары. Не губляючы нічога зь іх набытку, далей неабходныя памяць і працяг – такая ўнутрана-пачуцьцёвая, гарачая, інтэлектуальная выпечка калача з аўтахтоннага, айчыннага зерня. Творчыя выпечкі, асьвечаныя багатай польскай шматпакаленнай пісьменьніцкай рошчынай, будуць у нашым нацыянальным патрыятычным "я", у грамадскай думцы, пазьбягаць амнэзіі і ўзьнікненьня "мёртвых земляў".

На заканчэньне прагну дадаць яшчэ, што маім намерам не было напісаньне навукова-дасьледчыцкага артыкула, таму ў працэсе працы над кніжкай я сьвядома, калі пісаў пра творчасьць і жыцьцё пісьменьнікаў, не засяроджваўся на асаблівай, навуковай праверцы тэксту і зносках. На падставе імпульсаў, успамінаў, я свабодна адхіляўся ад тэмы, выражаў мае асабістыя погляды, што неаднаразова выплывалі са стану майго духа, якія я стараўся паказаць вершамі, метафарамі, рыфмамі. Таксама таму ў канцы кніжкі я разьмясьціў агульныя зьвесткі аб літаратуры і іншых формах паглыбленьня ведаў пра пісьменьнікаў. Пры напісаньні кніжкі я зьвяртаў увагу на тое, каб сэнс тэксту быў празрыстым, інфарматыўным, а

перш за ўсё – сугучны з назовам яе, каб абгрунтавана пацьвярджаў яе першапланавую тэзу: цудоўная літаратурная траса – каштоўная спадчына музеяў.

Паколькі ўсе тры літаратары былі майстрамі слова, стваралі культуру слова пісанага, мелі незвычайны дар ад нябёсаў і маці-прыроды паказваць прыгажосьць і багацьце роднай мовы, то гэтыя сьціплыя рэмінісцэнцыі аб Крашэўскім, Сянкевічы і Жаромскім у прозе, вершах і фатаграфіях, я замест падсумаваньня скончу вершам:

О! Вы годныя павагі,
Песьняры Бацькаўшчыны,
Гісторыі і мовы польскай!
Мэтры ўзбагачэньня
Айчыннага Слова і Духа!

Я верны і аддaны чытач
Над вашым творчым жыцьцём
Сьхіляюся зачараваны.

Ад павагі да вас
Пішу гэты свой верш,
Шчыра і праўдзіва:

**Наша польская гаворка**

Наша польская гаворка
Хай будзе сёньня і заўтра
Жыватворная як прырода!
А для закаханых у яе,
Родных, цёплых твараў!
Хай будзе не зьлічыць!

Каб як быццам вясна
Была ўвесь час і зноў,
Пяшчотнае, сьвежае, маляўнічае
Слова Айчыны і сям'і!

Нашая польская гаворка
Каб была трапная, сьмелая,
І яшчэ каб пісьмова
Пасьпявала за думкай!

Хай будзе таксама шпаркай
Як кроў, цякучая ў жылах,
І як мацярынскае каханьне гарачай!

Наша польская гаворка
Каб мела і тую якасьць,
Што зразумелая!

І як рытм сэрца –
Штодзённую жыцьцёвасьць
І хай нясе добрыя эмоцыі
У хвіліны натхненьня!

Нашая польская гаворка
Хай будзе плённай у дыялогу,
Зьмястоўнай і заўжды прыгожай
Сваёю прастатой!

І як згадкі пра бацькоў
Заўжды хай будзіць прыязь
І патрыятызм, і глыбокую польскасьць!
А яе родныя гукі, высокія,
Вясёлыя нібыта горныя патокі!

Наша польская гаворка
Каб была чыстай і цешыла квяцістасьцю
Разам з тымі, што на чужыне,
Хай радуе і суцяшае бясконца
Атульвае, як сонца праменьні!

Хай будзе заўсёды,
Нам іконай: вольная і сьветлая,
Якая па межах роднай Айчыны
Вечна і нястомна імчыць!

**Альдон Дзеньцёл**

# Пасьляслоўе

Зь вялікай зацікаўленасьцю прачытаў я працу пана Альдона Дзеньцёла. Намаганьні аўтара і цудоўны эфект напружанай літаратурнай працы зрабілі на мяне добрае ўражаньне. Крашэўскі, Сянкевіч, Жаромскі – тройка вялікіх празаікаў, гонар польскай літаратуры. Усе яны зьвязаныя зь *Любельшчынай*, што ні крок – натыкаемся ў іх прозе на *любельскія матывы*. У "Трылогіі" зьяўляюцца Коньскаволя і Замосьць. Крашэўскі прысьвяціў *Любельшчыне* і *Любліну* некалькі дзясяткаў твораў. Жаромскі жыў і тварыў у *любельскім* Наленчаве. Не чытаць іх раманаў – грэх, не пісаць пра гэта – грэх сьмяротны. Так што шмат журналістаў, публіцыстаў, рэпарцёраў, *літаратараў* намагалася згадваць пра сувязі вялікіх пісьменьнікаў з *Любельшчынай*.

За гэтую задачу ўзяўся і Альдон Дзеньцёл, таленавіты *літаратар* з Уладавы. Аўтар рэцэнзіруемай кніжкі валодае страсьцю публіцыста і тэмпераментам турыстычнага праваднiка. У падрыхтаванай да друку кніжцы ён красамоўна піша пра цікавыя бытавыя рэчы, біяграфічныя таямніцы мясьцін і *людзей*. Гэтыя веды не знайсьці ў падручніках, ці працах гісторыкаў. Са шчодрай мінуўшчыны аўтар здабыў маляўнічы матэрыял, які безумоўна зацікавіць ня толькі прафесіяналаў, а і ўсю масу чытачоў, якія імкнуцца не па падручніках уведаць пра мясьціны, зьвязаныя зь біяграфіямі вялікіх творцаў.

Публікацыя стварае цікавы даведнік для турыстаў, і, нарэшце, цудоўную візітную картку для рэгіёну.

**Зьбігнеў Уладзімеж Фрончак**
Галоўны рэдактар
Штодвумесячніка "*Люблін* – культура і грамадства".

# Бібліяграфія

1. *Nowa encyklopedia powszechna*, Wydawnictwo Naukowe PWN, Warszawa 1997.
2. *Wielkie biografie*, Wydawnictwo Naukowe PWN, Warszawa 2007.
3. *Literatura polska.Przewodnik encyklopedyczny*, Wydawnictwo Naukowe PWN, Warszawa 1985.
4. *Jyzef Ignacy Kraszewski. Listy do rodziny 1820-1863*, oprac. Wincenty Danek, Wydawnictwo Literackie, Krakyw 1982.
5. Burkot Stanisław, *Kraszewski*, Ludowa Spyłdzielnia Wydawnicza, Warszawa 1988.
6. Nofer Haloina, *Henryk Sienkiewicz*, Wiedza Powszechna, Warszawa 1962.
7. Hutnikiewicz Artur, Żeromski, Państwowe Wydawnictwo Naukowe, Warszawa 1987.
8. Krzyżanowski Julian, *Henryka Sienkiewicza żywoty i sprawy*, Państwowy Instytut Wydawniczy, Warszawa 1956.
9. Kucharski Jan, *Twyrczość Stefana Żeromskiego w latach 1882-1895*, Gdańskie Towarzystwo Naukowe, Gdańsk 1974.
10. *Jyzef Ignacy Kraszewski*, pod. red. J. Z. Jakubowskiego, Państwowy Zakład Wydawnictw Szkolnych, Warszawa 1962.

# Зьмест

Ад аўтара ............................................................................................. 7

**I. Сьлядамі трох польскіх пісьменьнікаў ..................................... 8**

**II. Юзаф Ігнась Крашэўскі**
Эскіз біяграфіі ........................................................................................ 24

Музей Юзафа Ігнася Крашэўскага ў Раманаве ................................ 27

**III. Генрык Сянкевіч**
Эскіз біяграфіі ........................................................................................ 31

Музей Генрыка Сянкевіча ў Волі Акшэйскай .................................. 33

**IV. Стафан Жаромскі**
Эскіз біяграфіі ........................................................................................ 37

Музей Стафана Жаромскага ў Наленчаве ......................................... 39

**V. Дом, сям’я – малая Радзіма ў жыцьці і творчасьці пісьменьнікаў ................................................................................ 43**

Эпілог ...................................................................................................... 54

Пасьляслоўе ............................................................................................ 58

Бібліяграфія ........................................................................................... 59



Любельскі замак




Помнік Юзафу Чаховічу ў Любліне




Магіла Клеменса Юношы Шаняўскага ў *Любліне* – могілкі *ля* вул. *Ліпавай*



Музей Юзафа Ігнася Крашэўскага ў Раманаве, за гэтым пісьмовым сталом зьявілася “Старая казка”



Музей Юзафа Ігнася Крашэўскага ў Раманаве



Музей Юзафа Ігнася Крашэўскага ў парку ў Раманаве



Маленькі палац у Раманаве – сядзіба Юзафа Ігнася Крашэўскага



Сямейная магільня Крашэўскіх ў Вішніцах





Музей Стафана Жаромскага ў Наленчаве





Музей Стафана Жаромскага ў Наленчаве



Музей Стафана Жаромскага ў Наленчаве, партрэт пісьменьніка



Помнік Стафану Жаромскаму ў парку ў Наленчаве



Музей Генрыка Сянкевіча ў Волі Акшэйскай



Музей Генрыка Сянкевіча ў Волі Акшэйскай



Музей Генрыка Сянкевіча ў Волі Акшэйскай



Курган Генрыка Сянкевіча ў Акшэі



Помнік Генрыку Сянкевічу на кургане ў Акшэі






Касьцёл у Акшэі, месца хросту Г. Сянкевіча



Палац Малахоўскіх у Наленчаве – сядзіба музея Баляслава Пруса